# К КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА № 48 (310) 5 — 11 снежня 1997 г. КОШТ 2000 РУБЛЁЎ

ІНФАРМУЕ




СЁННЯ Ў НУМАРЫ

• Разанаў • Алоўнікаў • Шэмякін • Елізар'еў • Пугачова • Янкоўскі • Харацьян • Сцяпанава • Рудзінштэйн • Сіманэк • Бойка • Хруцкі • Чухрай • Дунін-Марцінкевіч •


• Стар. 2



• Стар. 9





• Стар. 2

## П
ПАДЗЕІ
ПРАБЛЕМЫ
ПРАГРАМЫ
ПРАЕКТЫ

## СНЕЖАНЬ
## АРТ-ВІТРАЖ

• Стар. 2—3

• Стар. 3


• Стар. 3


• Стар. 10




• Стар. 11


• Стар. 10


• Стар. 8





• Стар. 9



• Стар. 12

## ЛІСТАПАД
ПРАЗ ПРЫЗМУ "БАГЕМНАГА" ШКЛА:

## А
АПРАБАЦЫІ
АВАЦЫІ
АНТУРАЖ
АЖЫЯТАЖ

• Стар. 8—9

# СТРАТЭГІЯ ДУХОЎНАСЦІ

**26 снежня 1997 года адбудзецца сустрэча прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі з дзеячамі культуры дзяржавы.**

У прыватнасці, існуе праблема выжывання творчых саюзаў — адна з найважнейшых у шэрагу праблем сённяшняга становішча і перспектыў развіцця нацыянальнай культуры. На працягу апошніх гадоў "К" неадназарова закранала гэтыя пытанні, акцэнтуючы ўвагу не толькі і не столькі на канстатацыі фактаў складанага эканамічнага становішча прафесійных творчых саюзаў, колькі на пошуках шляхоў выйсця з гэтага працяглага крызісу.

У дыялогах-інтэрв'ю з кіраўнікамі саюзаў аналізаваліся і спробы асэнсавання новай творча-арганізацыйнай ролі гэтых грамадскіх арганізацый на сучасным этапе дзеля захавання і развіцця інтэлектуальнага патэнцыялу нацыі.

Былыя эмацыйныя размовы і сумненні адносна таго, патрэбныя альбо непатрэбныя творчыя саюзы, засталіся ззаду. Саюзы сёння неабходныя больш, чым раней. І не толькі як арганізацыі, закліканыя з'яднаць творцаў-аднадумцаў і дапамагчы ім у творчым развіцці, уключаючы і сацыяльную сферу. Прафесійнае мастацтва ўлівае ў артэрыю грамадства тую самую высокую духоўную кроў, без якой, прынамсі, вырашэнне эканамічных праблем дзяржавы немагчымае.

Акрамя гэтага, пры адпаведнай падтрымцы дзяржавы дзеячы беларускай культуры могуць сёння зрабіцца і стваральнікамі стратэгічнай праграмы духоўнага фармавання нацыі ў цывілізаванай краіне, што размешчана ў цэнтры Еўропы. Надышоў час гаварыць і пра тое, што культурныя набыткі, важкую частку якіх складаюць мастацкія каштоўнасці, створаныя і сённяшнімі прафесіяналамі, таксама трэба ўзвесці ў ранг Нацыянальнага Набытку, улучыць лепшае ў Залаты запас Дзяржавы. На нашу думку, неабходна распрацаваць адпаведныя заканадаўчыя дакументы, якія не толькі возьмуць пад ахову Талент і Інтэлект нацыі, але і будуць дзейсна спрыяць іхняму перспектыўнаму развіццю.

А нам і сапраўды не сорамна за тое, што створана ў беларускай культуры. Адно толькі, на сённяшнім этапе варта ўсімі сродкамі акцэнтаваць увагу грамадства на павазе і любові да гэтых нацыянальных духоўных прыярытэтаў.

**Наш кар.**

# 17 СНЕЖНЯ — ДЗЕНЬ БЕЛАРУСКАГА КІНО

Беларускі саюз кінематаграфістаў, якому 17 снежня споўніцца 35 гадоў, запрашае на святочную праграму "Пад снегам снежня". Кінаклуб "Наша кіно" падрыхтаваў для паказу стужкі айчыннай вытворчасці, якія сталі прызёрамі шматлікіх кінаконкурсаў за апошнія некалькі гадоў. Гледачоў чакаюць па адрасе: вул. К.Маркса, 5.

**9 снежня а 18-й гадзіне:** прызёр І Нацыянальнага фестывалю ў Брэсце "Птушкі без гнёздаў", рэжысёр Віталій Дудзін.

**14 снежня а 15-й гадзіне:** вечар-сустрэча выпускнікоў "ЛИКИ".

**16 снежня а 18-й гадзіне:** урачысты вечар, прысвечаны Дню беларускага кіно і 35-годдзю Беларускага саюза кінематаграфістаў.

Пасля афіцыйнай часткі будзе дэманстравацца кінакамедыя "Нашы суседзі", рэжысёр Сяргей Сплашноў.

**23 снежня а 18-й гадзіне:** для сямейнага прагляду будуць дэманстравацца "Святочныя расказы", "Дзяўчына з запалкамі", рэжысёр Ірына Кадзюкова, а таксама "Прытча пра Гасана" і "Уначы ў тэатры".

Уваход на ўсе праграмы свабодны.

**Алена МЕЛЬНІКАВА**

# ТЭРПСІХОРА Ў СТЫЛІ МАДЭРН

**З 2 па 7 снежня** ў Віцебску, у мадэрновым будынку Культурна-дзелавога цэнтра ААТ "КІМ" праходзіць Х Міжнародны фестываль сучаснай харэаграфіі. Урачыстае афіцыйнае адкрыццё фестывалю адбылося 3 снежня. Настальгічны канцэрт быў прысвечаны юбілею фестывалю, які 10 гадоў таму распачаўся як андэграундны брэйк-фэст. Пра гэта нагадала Марына Раманоўская, дырэктар фестывалю. Шляхам пошуку віцебская імпрэза прыняла сучаснае аблічча, гэта значыць стала аўтарытэтным міжнародным святам сучаснай харэаграфіі. Пацверджаннем таму — прадстаўніцтва сёлетняга фестывалю: з першапачатковых 60 відэа-заяў да ўдзелу ў першым туры было адабрана 28 калектываў. Сярод іх — выканаўцы з Японіі, Кітая, Ізраіля, краін Балтыі, Украіны, Расіі і, зразумела, Беларусі. Пры гэтым геаграфія расійскіх калектываў надзвычай шырокая: у Віцебску выступаюць танцоўшчыкі з Санкт-Пецярбурга, Масквы, Казані, Екацярынбурга, Новасібірска і нават з Уладзівастока. Беларусь прадстаўляюць як вядомыя па папярэдніх гадах "Галерэя" і ТАД з Гродна, "Госьціца" з Мінска, так і новыя гурты: "Маленькі балет" Наталлі Фурман і дуэт Раду Паклітару (абодва — Мінск). Нарэшце, у конкурсе з'явілася і трупа з Віцебска са сціплай назвай "Студыя пластычнай харэаграфіі".

У канцэртнай праграме прынялі ўдзел тыя, хто некалі набыў тут імя: тэатр "Балет Яўгена Панфілава", "Стрыт-джаз" з Масквы, "Вольны балет" Мікалая Агрызкава.

У дні фестывалю праходзяць майстар-класы харэографаў Барбары Хэйлі, Марка Хайма (ЗША), Мікалая Агрызкава (Масква). Працуе секцыя крытыкі, у склад даследчай лабараторыі ўвайшлі спецыялісты з Беларусі, Расіі, Латвіі, Балгарыі і Францыі.

Журы конкурсу ўзначальвае дырэктар Нацыянальнага тэатра балета Беларусі Валянцін Елізар'еў. У складзе журы Сяо Сухуа — харэограф з Кітая, Кенжы Усуі — тэарэтык балета з Японіі, француз Серж Пейра, амерыканец Марк Хайм, немец Зігфрыд Гарайс і ўжо згаданы Яўген Панфілаў з Пярмі. Пачатак працы журы быў азмрочаны дарожным выпадкам, у які трапіў мікрааўтобус з некаторымі сябрамі журы разам са старшынёй. На шчасце, абышлося без ахвяр. Сёння, у пятніцу, журы падвядзе вынікі 1-га тура конкурсу, што праводзіцца, як звычайна, па дзвюх намінацыях: аднаактовы балет і харэаграфічная мініяцюра.

Падзеі фестывалю асвятляюць журналісты з большасці беларускіх газет, з расійскіх "Известий", часопісаў "Огонёк" і "Балет", расійскі тэлеканал "Культура" і 25 супрацоўнікаў Беларускага тэлебачання.

**Ігар КЛОКАЎ, наш спецкар — з Віцебска**

# МУЗЫКА НАДЗЕІ

Міністэрства культуры вельмі многа ўвагі і клопату аддае цяпер правядзенню юбілейнага сезона філармоніі. Такая ўвага да нашай музычнай культуры вельмі ўсцешвае. Асабліва радуе падтрымка ўладай нашай таленавітай моладзі.

Акурат Міністэрства культуры разам з Аўтарскім фондам СК і Дзяржаўным камітэтам па справах моладзі, а таксама Саюз мастакоў Беларусі з'яўляюцца заснавальнікамі форуму "XXI стагоддзе. Музыка надзеі", які адбудзецца **23—24 снежня**. У ім прымуць удзел юныя лаўрэаты рэспубліканскіх і міжнародных конкурсаў за 1997 год, юныя кампазітары, мастакі, паэты.

На форуме адбудуцца сустрэчы таленавітай моладзі са сталымі майстрамі мастацтва, за "круглым сталом" пойдзе гаворка аб праблемах музычнага і эстэтычнага выхавання ў сучасных варунках. Завяршыць форум вялікая імпрэза, у якой возьмуць удзел лаўрэаты і стыпендыяты спецыяльнага Фонду прэзідэнта Беларусі па падтрымцы таленавітай моладзі. Яна адбудзецца 24 снежня ў канцэртнай зале Белдзяржфілармоніі пад сімвалічнай назвай "Юныя зоркі музычнага небасхілу".

**Віктар ВОЙЦІК**



**28 снежня** ў Дзяржаўным цырку для дзяцей з усіх куткоў Беларусі запаліць рознакаляровыя агні Галоўная Елка Краіны. У гэтым пераднавагоднім свяце возьме ўдзел Прэзідэнт дзяржавы А.Лукашэнка.

# "ХАЛІ-ХАЛО-97"

У Наваполацку Віцебскай вобласці **з 5 па 7 снежня** гэтага года ў чацвёрты раз адбудзецца Дзіцячы музычны фестываль "Халі-хало", які ўжо другі год мае статус рэспубліканскага. Удзел у ім прымуць дзеці з усіх абласцей Беларусі ва ўзросце ад 6 да 17 гадоў. Гэты некамерцыйны фестываль садзейнічае развіццю эстраднага песеннага жанру, адна з задач якога — стаць першай прыступкай у сістэме агульнарэспубліканскіх песенных конкурсаў і фестываляў.

Арганізатары "Халі-хало-97" — Міністэрства культуры РБ і аддзел культуры Наваполацкага гарвыканкама.

**Ул. інф.**

# "ЖАНЧЫНА Ў ЗОНЕ ЭКАЦЫДУ" —

так будзе называцца міжнародны экалагічны саміт, які **12 — 13 снежня** праводзіць Усебеларускі жаночы фонд Св.Еўфрасінні Полацкай і амерыканская дабрачынная арганізацыя ISAR у Доме дружбы.

У ім прымуць удзел жанчыны з многіх краін — былых рэспублік СССР, а таксама з краін Еўропы, каб абмеркаваць сацыяльна-прававое становішча жанчын і праблемы экалогіі. Як вядома, наша краіна — найбольш пацярпелая ад Чарнобыля, і пытанне сёння стаіць аб праблемах выжывання нацыі ўвогуле. Таму матэрыял аб гэтым саміце будзе надрукаваны ў "Культуры" больш падрабязна. Як лічыць старшыня аргкамітэта, пісьменніца Валянціна Коўтун, узровень саміту будзе высокі, а яго вынікі — патрэбнымі і нават неабходнымі для ўсіх нас.

**Наш кар.**

# ЕЎРАРАМОНТ ДЛЯ... ВІЯЛАНЧЭЛІ

***У снежаньскі вечар, напярэдадні Дня Цудаў добрага Санта-Клаўса, як быццам у старой казцы, у рэдакцыю газеты "Культура" завітаў музыкант, наш сябра Алег Алоўнікаў, віяланчэліст, саліст Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Але наш казачны настрой адразу ж знік, бо з музыкантам не было футарала з яго знакамітай віяланчэллю. Што ж здарылася? І вось — маналог музыканта:***

— Мой інструмент зараз знаходзіцца ў Рызе, рамантуецца. Камусьці падасца — гэта звычайная справа, але я ўжо каторы тыдзень адчуваю сіроцтва. Бо мая віяланчэль для мяне, як і для кожнага музыкі, інструмент — гэта частка душы, родная істота, як жонка і дачка. Я сам яго набываў, шмат гадоў на ім іграю, вялікая частка маёй канцэртнай дзейнасці звязана з ім. Гастраляваў я з ім за мяжой, пільнаваў як малое дзіця: мы разам працавалі і навучыліся адчуваць адзін аднаго. Ён жа жывы — мае голас, цела.

Калі спатрэбілася яго направіць, я пакутліва і доўга шукаў нават не майстра, а музычнага доктара. На вялікі жаль, на Беларусі няма майстроў, якім я мог бы даверыць інструмент высокага класа. Мне давялося шукаць іх у Маскве, але да тамтэйшых звяртаюцца ўсе, і яны цалкам загружаныя.

Знайшоўся майстра ў Рызе. Завёз яму інструмент і праз усю ноч на пяці старонках пісаў майстру ліст: што здарылася, што я хацеў бы направіць, якое пакінуць гучанне, мне ж не дазволяць "сядзець ля ложка хворага". Вы ведаеце, гэта ж страшэнна істотна быць побач, самому пракантраляваць направу: балюча, што нельга ўсё вырашыць тут, на месцы, што на нашай зямлі няма традыцый, школы для такіх майстроў. Хто іх вучыць? Хто іх падтрымлівае? Нашыя самавукі не маюць магчымасці паехаць на стажыроўку ў тую ж Маскву ці Еўропу. Беларусь мае шмат аркестраў высокага класа, музычныя тэатры, музычную вядомасць у свеце, дык хіба такія прафесіяналы дзяржаве не патрэбныя?!



Калі паўстае праблема, кожны музыка, як можа, клапоціцца сам, але ж мы не прыватныя музыканты...

На маю асабістую думку, музыканты заслугоўваюць большай увагі. Каб якасна выступіць з адным канцэртам, музыканту трэба працаваць як мінімум месяц і не па 8 гадзін у дзень. А якія ўмовы для рэпетыцый? Па-за сцэнамі філармоніі чакае звычайная аднапакаёвая кватэрка, дзе сусед насупрак гучанню віяланчэлі ўключае "тэхна". То трубы гудуць, то тэлевізар працуе, то пыласос... Вось такі аркестр атрымліваецца!

А ў што выліваецца абслугоўванне інструментаў? За мяжой у сярэднім аркестры інструменталісты — скрыпачы альбо віяланчэлісты — волас на смычку мяняюць раз на тры месяцы. За кошт самога аркестра! У нас гэтая працэдура каштуе больш, чым кожны з нас зарабляе за месяц. І "пілуеш" гэты волас да поўнага знішчэння, чакаючы, што будзе так, як у Еўропе.

Тое самае з набыццём інструментаў. Я ведаю, што ў Балгарыі, з зрэшты, таксама не багатая краіна, маму калегу дзяржава выдаткавала для набыцця віяланчэлі 100 тысяч долараў. І гэтыя грошы не "выкінутыя". Таму што добры музычны інструмент аўтаматычна робіцца нацыянальнай каштоўнасцю, пачынае працаваць на прэстыж і эканоміку краіны.

У Францыі ўвогуле менавіта Міністэрства культуры забяспечвае сваіх вядучых музыкантаў інструментамі. Калісьці, прыкладна сем гадоў таму, наша дзяржава мела магчымасць набыць адзін высокакласны інструмент. Тады кошт той віяланчэлі складаў каля 30 тысяч долараў, цяпер, напэўна, больш, бо ўзрост інструментаў узнімае цану. Але мая прапанова не знайшла водгуку. Я чуў пра гэты інструмент ад сваіх выкладчыкаў, яшчэ калі быў падлеткам. Шукаў, знайшоў яго, а цяпер ён недзе ў Літве.

Адчуваю разгубленасць. Канцэрт з "Музычнай восені" перанёс ажно на студзень. Вось калі б зараз раптам надарыўся яшчэ які-небудзь адказны канцэрт — я ж з голымі рукамі, без віяланчэлі. Тое, што мне адначы на хуткі выпадак запрапанавалі, — не прыняў. Трэба ж разумець: мы ні "пад фанеру", ні на фанеры іграць не можам. Словам, калі б усе так сур'ёзна ставіліся да сваёй справы, як да яе ставяцца сапраўдныя музыканты, мы б ужо даўно жылі ў ідэальным грамадстве.

**Запісаў Сымон ПТАХ**
**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**






# НАЦЫЯНАЛЬНЫЯ ОПЕРА І БАЛЕТ

Нацыянальны тэатр оперы ў снежні прапануе асноўны рэпертуар — і сюрпрыз. З асноўнага рэпертуару варта адзначыць спектакль "Яўгеній Анегін", што адбудзецца **11 снежня**. У гэты вечар на сцэну выйдзе студэнт Акадэміі музыкі Уладзімір Мароз. Таленавіты юнак — вучань народнага артыста Беларусі прафесара Анатоля Генералава, які ў свой час вучыў вакалу сённяшніх вядучых салістаў нашай оперы — Алега Гардынца, Рыгора Палішчука, Марата Грыгорчыка. Уладзімір аднойчы ўжо спяваў партыю Анегіна, як кажуць, выдатна. Разам з ім у спектаклі возьмуць удзел Алена Бундзелева (Таццяна), Марат Грыгорчык (Ленскі), Таццяна Варапай (Вольга).

Што да сюрпрызу, то ён тычыцца маленькіх гледачоў: напярэдадні Новага года Дзіцячы музычны тэатр-студыя ладзіць выдатную прэм'еру — камічную оперу Марка Мінкова "Чароўная музыка". Сюжэт оперы такі: два маленькія музыканты Дзінь і Бом пры дапамозе Рыжага і Белага клоўнаў трапляюць у царства музыкі. У форме казкі маленькім гледачам расказваюць аб оперы, яе каштоўнасцях, яе асаблівасцях. Гледачы таксама знаёмяцца з асноўнымі інструментамі сімфанічнага аркестра, вучацца яго слухаць. Усё гэта — з прыгодамі, пагонямі, жартамі. Рэжысёр оперы — Галіна Галкоўская, музычны кіраўнік — Леў Лях, мастак — Любоў Сінельнікава, балетмайстар — Алена Дзмітрыева-Лаўрыновіч. Прэм'ера спектакля адбудзецца **27 і 30 снежня** раніцай у 11.30.

Нацыянальны балет запрашае сваіх паклоннікаў на прэм'еру — балет Ігара Стравінскага "Вясна святарная". Гэта — з аднаго боку, узнаўленне спектакля, што быў пастаўлены адзінаццаць гадоў таму, з другога — зусім новы твор, з новых дэкарацыямі, з новымі касцюмамі, з часткова новай харэаграфіяй. Як зазначыў Валянцін Мікалаевіч Елізар'еў, пастаноўшчык балета, ён стараўся захаваць лепшае з былой харэаграфіі і дабавіў тое, чаго патрабуе пераменлівы час. Трэцяе выкананне новага балета адбудзецца **10 снежня**.

Зразумела, гэтым не вычэрпваецца снежаньская афіша тэатра — у ёй, як заўсёды, шмат назваў. У тым ліку "Кругаверць" (раніцай **7 снежня**), прэм'ера "Раймонда" (**19 снежня**), славутыя "Страсці" (**12 снежня**) і іншыя. А **31 снежня** а 13-й гадзіне сапраўдныя фанаты балета зноў, па шматгадовай традыцыі, атрымаюць магчымасць акунуцца ў навагодні настрой славутага "Шчаўкунчыка"!

**Ігар КЛОКАЎ**

# "АПТЫМАЛЬНАЯ ДЫСТАНЦЫЯ" АЛЕГА ЧЫРКУНА

***13 снежня ў 17 гадзін у сталічным Доме афіцэраў адбудзецца творчы вечар кампазітара, выкладчыка Універсітэта культуры Алега ЧЫРКУНА. Наш карэспандэнт сустрэўся з Алегам Міхайлавічам і папрасіў яго адказаць на некалькі пытанняў.***

**— Алег Міхайлавіч, вас добра ведаюць у Саюзе пісьменнікаў Беларусі. Шмат гадоў і на сцэне Дома літаратара, і ў час паездак па краіне разам з паэтамі вы выконваеце песні, напісаныя вамі на творы беларускіх і рускіх пісьменнікаў, такіх, як Вольга Іпатава, Сяргей Панізьнік, Уладзімір Скарынкін, Міхась Ясень, Іван Карэнда, Асенеў... Каго за апошнія гады вы "адкрылі" як паэта-песенніка?**

— Гэта найбольш паэткі — Людміла Паўлікава, Любоў Шэлег, Святлана Шыманская. Мне падабаецца ў іхняй паэзіі лірычнасць, юная няўрымслівасць, а найбольш нейкае асаблівае святло, якое прыўзнімае чалавека над шэрай будзённасцю жыцця.

**— Як кампазітара мы ведаем вас найперш па дзвюх сімфанічных паэмах, кантатах, якія выконваюцца многімі харавымі калектывамі Беларусі. Але ў першай вашай кнізе "Бацькоўская зямля" — у асноўным песні. Ды і другі зборнік, які хутка выйдзе, называецца хаця і рамантычна, ды надта "па-зямному": "Сена маладое", па назве вельмі папулярнай песні, якая дзякуючы вам і паэту Валянціну Мысліўцу лічыцца ўжо народнай. Чаму вы не пайшлі ў так званую "высокую" музыку?**

— Ёсць бегуны на кароткія і доўгія дыстанцыі. Мабыць, мая аптымальная дыстанцыя — гэта песня, дзякуючы якой я адразу бачу "вынік" — шчырыя, удзячныя вочы слухачоў, іхнюю любоў і павагу. І гэта натхняе мяне, дае мне сілы.

**— І апошняе — мы ведаем, што вы выхаванец дзіцячага дома, што менавіта там вы пачалі, займаючыся ў музычным гуртку, спрабаваць свае сілы як кампазітар. Ці не адтуль пайшлі вы ў музычнае вучылішча, у вялікі свет Музыкі, дзе вашым першым настаўнікам стаў кампазітар Рычард Бутвілоўскі? Але неяк на адным з канцэртаў вы сказалі, што пачыналі жыццё як рабочы. Гэта не агаворка?**

— Не. З дзіцячага дома я трапіў спачатку ў Мінскае ГПТВ-52 і, скончыўшы яго як малады муляр, паступіў працаваць на завод імя Вавілава. І самыя мае яркія ўспаміны менавіта аб выступленнях у самадзейнасці, аб першым поспеху... Дарэчы, у самых першых тэлеперадачах Беларускага тэлебачання я выступаў з песнямі "Арлёнак" і "Санта-Лючыя", і мне прадракалі вялікую будучыню як спеваку. Але выйшла інакш. І ўсё ж я сам выконваю мае песні, і гэта падабаецца маім слухачам.

**— А на творчым вечары?**

— Мне дапамогуць мае сябры — Якаў Навуменка, група "Раха", Уладзімір Правалінскі, Святлана Паўлішына, — усе тыя, для каго беларуская песня таксама стала жыццём і лёсам...

**Я.Ф.**

# ШТО АДБУДЗЕЦЦА Ў СНЕЖНІ?

### *Мінскі Палац мастацтва*

З **10 снежня** — выстава твораў Ігара Тапіліна, наладжаная Міністэрствам культуры РБ, Беларускімі Саюзамі кінематаграфістаў і мастакоў.

І.Тапілін — у кінематаграфічным асяроддзі чалавек вядомы. Амаль чвэрць стагоддзя ён трывала звязаны з кінастудыяй "Беларусьфільм" і як мастак-пастаноўшчык паставіў тут каля 30 фільмаў, сярод якіх "Пра Чырвоны Каптурык" і "Прыміце тэлеграму", "З юбілеем пачакаем" і "Сівая легенда", "Кааператыў "Палітбюро" і "Хачу ў Амерыку", "Жыў-быў Пётр" і "П'едэстал", "Восьмы рэйс" і "Каханне à la russe".

Выхаванец "ВГІКа", Тапілін валодае, паводле слова ягонага калегі А.Чартовіча, "уласнай стылістыкай і навізной мыслення ў прасторы". Дадам: і рэдкім мастакоўскім дараваннем "зліваецца" з задумай рэжысёра і апаратара ці то на натурных здымках, ці то ў павільённых дэкарацыях...

З **9 снежня** — выстава твораў аршанскага мастака Мікалая Таранды.

**Да 10 снежня** — мастацка-літаратурная выстава-праект "Кабінет", прысвечаная памяці Уладзіміра Бойкі.

### *Нацыянальны мастацкі музей Беларусі*

**З 5 снежня па 12 студзеня** — выстава "Рускае мастацтва напрыканцы XIX — на пачатку XX стагоддзя" (са збораў музея).

**З 12 снежня па 26 студзеня** — выстава "Беларускі краявід 40 — 60-х гадоў XX стагоддзя" (са збораў музея).

### *Галерэя "Мастацтва" Беларускага Саюза мастакоў*

Працягвае працаваць выстава жывапісу заслужанага дзеяча мастацтваў, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі, акадэміка Беларускай акадэміі выяўленчага мастацтва Уладзіміра Тоўсціка і мастака ўжыткоўвага мастацтва і дызайнера Льва Талбузіна (парцэляна). З **12 снежня** — выстава твораў Рыгора Сітніцы пад назвай "Ратаванне Грэцыяй".

### *Брэст*

Працягваецца пленэр жывапісу і графікі, прысвечаны 80-годдзю з дня нараджэння П.М.Машэрава. Пленэр наладжаны Упраўленнем культуры аблвыканкама і Брэсцкай абласной арганізацыяй Саюза мастакоў згодна з рашэннем Брэсцкага аблвыканкама ад 17 красавіка 1997 года.

Дзесяць мастакоў Брэстчыны пішуць і малююць памятныя мясціны, дзе пачынаючы са жніўня 1955 года і да красавіка 1959 года жыў і працаваў першы сакратар Брэсцкага абкама КПБ, вялікі сын Беларусі Пётр Міронавіч Машэраў. На люты 1998 года плануецца правядзенне справаздачы-выставы ўдзельнікаў гэтага пленэру.



**17 снежня** 1997 года ў памяшканні Брэсцкага тэатра драмы і камедыі адбудзецца ўрачыстая вечарына, прысвечаная 50-годдзю абласной арганізацыі Беларускага Саюза мастакоў і ягонага камбіната "Мастацтва".

На юбілейныя ўрачыстасці і вернісаж мастакоў Берасцейшчыны ўсіх сардэчна запрашаюць Міхаіл Канькоў *(на здымку злева)* — старшыня мясцовага Саюза мастакоў і Аляксандр Грышчук — дырэктар мастацкага камбіната.

# ПЯРЭДАДЗЕНЬ З'ЕЗДА

Снежань для Саюза кампазітараў — месяц асаблівы, бо акурат гэты час — пярэдадзень з'езда СК. Трэба зазначыць, што чарговы з'езд творчага саюза планавалася правесці па восені, пазней дату яго правядзення перанеслі на больш позні тэрмін, нарэшце час яго правядзення быў вызначаны дакладна — 15 студзеня. Менавіта да гэтай вызначальнай падзеі ў жыцці СК прымеркаваны юбілейны аўтарскі вечар вядомага кампазітара, народнага артыста Рэспублікі Беларусь, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Дзмітрыя Смольскага. Ён адбыўся 5 снежня ў Дзяржаўнай філармоніі, у праграме прымалі ўдзел Дзяржаўны акадэмічны сімфанічны аркестр Рэспублікі Беларусь, дырыжоры — Міша Кац (Францыя) і Генадзь Праватораў, салісты — лаўрэат міжнародных конкурсаў Юрый Бліноў (фартэпіяна), Юрый Герман (скрыпка), Віктар Смольскі (электрагітара).

Таксама ў снежні адбудзецца аўтарскі вечар знанага кампазітара, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі Генрыха Матусавіча Вагнера. Пра дату правядзення вечара газета паведаміць дадаткова.

**А.Р.**

# БІЦЕ ВІТРЫНЫ, ПАЭТ!

Неяк жартам падумалася, што Алесь Разанаў ужо не паэт, а нацыянальная каштоўнасць.

Я ведаю, што сам Алесь Разанаў не спяшаецца станавіцца экспанатам музея сучаснага беларускага мастацтва, ён па-ранейшаму хоча быць паэтам, гэта значыць, запатрабаванай падзеяй жывога літаратурнага працэсу. Але тут, падобна, нічога не паробіш, паза ўласнай воляй Алесь Разанаў ужо даўно на вітрыне, пад шклом. Усялякі раз, калі замежным гасцям паказваюць, чаго вартая сучасная беларуская паэзія, іх найперш вядуць да вітрыны з шыльдай "Алесь Разанаў". Тое самае адбываецца, калі беларуская літаратура гасцюе ў блізкім ці далёкім замежжы — вітрыну цягнуць з сабой... Калі б паэзія рабілася штучна, як трактары "Беларусь", то пра вершы і паэмы Алеся Разанава можна было б сказаць, што гэта экспартны варыянт беларускай паэзіі. Але вершы не робіцца на экспарт ці дзеля ўласнага ўжытку, яны ствараюцца самі дзеля сябе. А для чаго потым прыдадуцца — гэтага наперад ніхто не ведае.

Як мне здаецца, феномен значнасці вершаванняў Алеся Разанава звязаны найперш з тым, што ён выявіў чацвёртае



***Выдатнаму беларускаму паэту і члену рэдкалегіі нашай газеты Алесю РАЗАНАВУ — 50. Віншуем... Зычым... Паважаем і любім!***

**"КУЛЬТУРА"ўцы**

(метафізічнае) вымярэнне да гэтага трохмернай (фалькорна-побытавай) беларускай паэзіі.

Гэтае павелічэнне аб'ёму беларускай паэзіі на цэлае вымярэнне і ёсць Алесь Разанаў.

Аднак зважаючы на вершаванне Алеся Разанава як на метафізічнае, трэба ясна ўсведамляць, што ўся ягоная метафізіка скінутая ў антапогію, дакладней — у анталагічнае быццё беларускага слова. Гэта не метафізіка зорнага неба, астральных целаў, трансцэндэнцыі ўвогуле, а метафізіка зерня, гліны, камення і самога слова.

І яшчэ... На Беларусі заўсёды было багата паэтаў, якія пісалі харошыя вершы. Але мы маем толькі некалькі выключэнняў, калі паэт стварае ўласную паэтыку. Адно з такіх рэдкіх выключэнняў — Алесь Разанаў...

Размова пра паэтыку Алеся Разанава тут будзе не да часу і не да месца. Заўважу толькі, што ў яе аснове — вельмі жорсткая структура, як у крышталя. Верагодна, якраз з гэтага атрымліваецца, што ўвесьчасна імкнучыся быць жывой падзеяй непасрэднага літаратурнага жыцця, Алесь Разанаў адначасна як бы сам, уласнымі рукамі муміфікуе сябе для вечнасці. Пэўна, апошняе аднойчы і падсунула мяне да думкі, што ён ужо не паэт, а нацыянальная каштоўнасць, гэта значыць тое, што не падлягае часу.

Я не пераканаў, што Алесь Разанаў некалі зможа знішчыць мумію вечнасці ўнутры сябе (сваёй паэтыкі), але вось у чым я ўпэўнены, дык гэта ў тым, што ён, пакуль *будзе*, будзе і будзе біць тыя шыбы вітрыны звонку, за якія мы засоўваем яго, каб мець *для сябе* каштоўны экспанат.

Біце нашы вітрыны, Паэт! Я гатовы падносіць вам камяні!

**Валянцін АКУДОВІЧ**

**П**АДЗЕІ
**П**РАБЛЕМЫ
**П**РАГРАМЫ
**П**РАЕКТЫ

СНЕЖАНЬ

АРТ-ВІТРАЖ

РЭПАРЦЁРСКІ МАРАФОН

# У ДЗЕНЬ СВЯТОГА МІКАЛАЯ, А ТАКСАМА ПАСЛЯ ЯГО

У мене надаць любой з'яве рысы гістарычнай пераемнасці, стварыць утульную атмасферу ўрачыстасці і свята — гэтымі якасцямі заўсёды радуе нас Гётэ-Інстытут у Мінску.

Вось і снежань будзе адзначаны святамі, якіх даўно чакаюць настаўнікі нямецкай мовы, дзеячы культуры і навукі, што супрацоўнічаюць з многімі праектамі Інстытута.

**6 снежня** яны збяруцца ў Доме дружбы, каб адзначыць Дзень святога Мікалая і блізкія Каляды — песнямі, вершамі, кубачкамі гарбаты альбо кавы. А найбольш — сяброўскім сумоўем, абмеркаваннем новых праектаў, новых аспектаў культурнага супрацоўніцтва. Намеснік дырэктара Гётэ-Інстытута Карын фон Врангель, нястомны і сардэчны чалавек, якая шмат робіць для таго, каб зблізіць нашы культуры, добра знаёмая настаўнікам у самых аддаленых сельскіх школах, яна часта выязджае на сустрэчы ў вобласці і раёны краіны.

**7 і 13 снежня** таксама ў Доме дружбы збяруцца слухачы курсаў нямецкай мовы, якімі кіруе пані Луіза Кляйзер.

Я ўспамінаю "свята выпускнікоў", якое было наладжана летась пад яе кіраўніцтвам у маі. Тады да нас у Мінск прыехаў аматарскі калектыў "Швабскія трубачы", які штогод выступае ў розных краінах свету і адзначаецца высокай культурай выканання. Апранутыя ў сярэдневяковыя касцюмы, трубачы гэтыя, самы юны з якіх быў васьмікласнік Фларыян Біндэр, а самы старэйшы — дваццаціпяцігадовы кіраўнік Маркус Унгэцюм, хутка асвойваліся сярод слухачоў, якія спрабавалі ўзяць у іх інтэрв'ю — вядома, на нямецкай мове. Аказалася, што духавыя інструменты, на якіх граюць музыканты, зроблены самім кіраўніком — рэдкасным спецыялістам і музыкам, які працуе на фабрыцы горада Герсхофэна, што недалёка ад Аўгсбурга. Гаворка аб асаблівасцях таго ці іншага інструмента аказалася такой цікавай, што слухачы ніяк не хацелі разыходзіцца, нават пасля таго, як былі з'едзеныя ўсе салаты, прыгатаваныя на свята па нямецкіх і беларускіх рэцэптах...

— Я вельмі цаню той факт, што мяне залічылі на курсы нямецкай мовы пры Гётэ-Інстытуце, — сказаў малады ўрач Аляксандр Лемяшэўскі. — Спадзяюся, што веданне мовы дапаможа мне пры вывучэнні новых еўрапейскіх методык лячэння, а значыць, дапаможа выратаваць ад смерці тых, каму пасля Чарнобыля пагражае найбольшая небяспека. А ўвогуле за гэты час мы даведаліся, апроч усяго іншага, яшчэ шмат чаго цікавага пра культуру, звычаі, дэмакратычныя інстытуты Германіі. Так што я абавязкова буду працягваць вучобу, хаця мне цяжка выкройваць для гэтага час, бо хірург — прафесія нялёгкая...

Сапраўды, дзейнасць Гётэ-Інстытута ў Мінску значна пашырыла кола сяброў і прыхільнікаў дэмакратычнай Германіі, адкрыла, як калісьці, у сярэдневяковыя часы, дарогі ў Еўропу. Вось чаму многія, відаць, прыйдуць 9 снежня праводзіць пасла Германіі ў Беларусі пана Альбрэхта Готфрыда, у якога заканчваецца тэрмін працы, каб сказаць яму шчырыя словы падзякі: і за гуманітарную дапамогу, якая шчодра прыходзіла і прыходзіць з яго краіны, і за дапамогу ў многіх культурных праектах, і за тых нашых дзяцей, якім родныя сталі многія нямецкія сем'і, куды яны прыязджаюць на аздараўленне.

...Любое свята звычайна заканчваецца размовамі — аб культуры, толькі што пачутай музыцы, аб агульнай будучыні. Можа, гэтая, неафіцыйная частка і дае найбольшы вынік у праблеме — як найлепей зразумець адзін аднаго...

**Вольга ІПАТАВА**

# ГІСТОРЫЯ МЫЛЬНЫХ БУРБАЛАК

Пачынаючы з 1995 года кампанія французаў "Шмід-Пернет" рэгулярна гастралюе ў Мінску. Цяпер яны наведаюць беларускую сталіцу ўжо ў чацвёрты раз. Танцоўшчыкі, па прозвішчах якіх і названы калектыў сучаснага танца, зноў прымусяць казаць пра сябе, пра сучасны танец тых, хто прыйдзе ў сталічны тэатр музычнай камедыі **10 снежня**. У гэты вечар Наталі Пернет і Андрэас Шмід разам з двума сваімі калегамі пакажуць навейшую працу, ці п'есу, як яны прызвычаіліся называць свае балеты, з назвай "Мыла". Як і раней, гэтыя гастролі сталі магчымымі дзякуючы Міністэрству замежных спраў Францыі, Асацыяцыі мастацкіх дзеянняў Францыі (AFAA) і аддзелу культуры французскай амбасады ў Беларусі.

Папярэднія спектаклі Шмід-Пернет здзіўлялі, выклікалі спрэчкі, прыцягвалі ўвагу. Першымі былі "Сцяна-палімпсест" і "Дрыжыкі Алісы". Найбольш здольнымі ацаніць авангардны танец аказаліся навучэнцы нашага харэаграфічнага каледжа. Вось чаму наступная праца была ўжо сумеснай, пасля двухтыднёвых майстар-класаў па сучасным танцы, што прайшлі для ўсіх жадаючых вучняў каледжа. Балет называўся "Падоўжаныя цені" і ў ім бралі ўдзел аж 14 навучэнцаў.

П'еса "Мыла" — гэта спроба пражыць жыццём звычайнага прадмета, мыла. Так нараджаецца відовішча, якое ідзе шляхам метамарфозы прадмета са свайго звычайнага стану, цвёрдага, гладкага, блакітнага (менавіта блакітная фарба, "марылка", на гэты момант будзе адзіным адзеннем аднаго танцоўшчыка і трох танцоўшчыц) да стану растварэння і цалкавітага знікнення. Гэтай эвалюцыі мыла адпавядаюць таксама ўсе пачуццёвыя, візуальныя і слыхавыя з'явы, на якіх пабудавана сцэнаграфія, свет і гук (музыкай у звычайным сэнсе я б гэта не назваў). Гэтая п'еса была задумана як пачуццёвая, гэта значыць, што яна звяртаецца да ўражанняў, роўна як і да пачуццяў гледачоў. Спалучэнне гукаў, прастор, змена абстаноўкі абуджаюць адначасова і гульнёвае задавальненне, і смагу да дзіўных уражанняў, магчыма, і яшчэ да шмат чаго...



Стылістыка, лексіка танцаў Шмід-Пернет вельмі непадобная да таго, што ўяўляюць нашы гледачы пры слове "балет". Нездарма ў прэс-рэлізе французскай амбасады значыцца "Прадузятасць належыць пакінуць у гардэробе!" Той жа, хто прыйдзе на гэты спектакль з гатоўнасцю да па-сапраўднаму новых уражанняў, атрымае вялікае задавальненне. Магу смела гэта сцвярджаць, нават пабачыўшы толькі відэазапіс п'есы. Дарэчы, асабіста я стаў паклоннікам трупы і наогул французскага танца мадэрн далёка не адразу, праглядзеўшы, часам адно і тое ж, па-некальки разоў, каб упэўніцца, што гэта сапраўды новае мастацтва, а не збор выпадковых рухаў і гукаў. Таму раю цікаўным наведаць таксама і генеральную рэпетыцыю спектакля "Мыла", што адбудзецца **9 снежня** а 19-й, і, магчыма, і ранішні спекталь 10 снежня у 11.30 там жа, у музкамедыі, уваход на які (у адрозненне ад вячэрняга, а 19-й) вольны.

**Ігар КЛОКАЎ**

# ПРАЦЯГВАЕЦЦА РЭСПУБЛІКАНСКІ КОНКУРС ПЛАКАТА "НЕБЯСПЕКА — СНІД"

Рэспубліканскі конкурс на стварэнне лепшага твора плакатнага мастацтва пад дэвізам "Небяспека — СНІД" праводзіцца ў адпаведнасці з Праграмай ААН — СНІД у Рэспубліцы Беларусь Міністэрствам культуры, Міністэрствам аховы здароўя, Беларускім Саюзам мастакоў.

Галоўнай мэтай конкурсу з'яўляецца адлюстраванне сродкамі плаката глабальнай небяспекі СНІД — цяжкага інфекцыйнага захворвання, з якім змагаецца чалавецтва планеты.

**Конкурс праводзіцца ў тэрмін з 5 лістапада па 22 снежня 1997 года.**

Удзельнікі конкурсу ў вызначаны тэрмін падаюць свае прапановы журы на адрас: Мінск, вул.Казлова, 3, Палац мастацтва.

Арыгіналы плакатаў павінны быць наклеенымі на кардон памерамі 60х90, 70х108, выкананыя ў тэхніцы, спрыяльнай аўтару (гуаш, тэмпера, фотамантаж).

Па тэхнічных якасцях работы павінны адпавядаць умовам друку: без склеек, трэшчын, перагібаў.

Фотаплакаты прадстаўляюцца ў адрэтушаваным выглядзе. На адваротным баку плакат пазначаецца дэвізам з шасціэначнай лічбы (вышыня знакаў — 1 см). Пад гэтым жа дэвізам прадстаўляецца заклеены канверт, у якім павінны знаходзіцца звесткі аб аўтары і яго адрас.

Арыгіналы плакатаў, прадстаўленыя на конкурс, якія не адпавядаюць умовам конкурсу, журы не разглядае.

За лепшыя плакаты ўстанаўліваюцца тры прэміі:
адна першая — 10 млн. рублёў
адна другая — 7 млн. рублёў
адна трэцяя — 4 млн. рублёў.

# АНГАЖЭМЕНТЫ

**14 снежня** ў канцэртнай зале "Мінск" адбудзецца сольны канцэрт вядомай камернай спявачкі Алены Камбуравай. Мінчукоў чакае сустрэча з творамі кампазітара Уладзіміра Дашкевіча, які некалькі гадоў супрацоўнічае з таленавітай спявачкай.

**20 снежня** ў памяшканні Дома афіцэраў пройдзе аўтарская праграма Рамана Карцава "Мая Адэса". Гэта не першы прыезд акцёра-сатырыка ў беларускую сталіцу, у жыхароў якой высокія патрабаванні да майстроў сцэнічнага мастацтва. Радуе і той факт, што квіткі на канцэртнае выступленне вядомага адэсіта Рамана Карцава недарагія: ад 70 да 200 тысяч беларускіх рублёў. Смех смехам, а камерцыйным спектакль не назавеш.

**Наш кар.**

*Кафедра харэаграфіі Беларускага універсітэта культуры запрашае сваіх выпускнікоў, былых выкладчыкаў, супрацоўнікаў і ўсіх жадаючых на святкаванне 20-годдзя калектыву.*

***12 снежня** а 16-й гадзіне ў Палацы культуры "Юнацтва" (вул.Фабрыцыуса, 5) — урачыстае пасяджэнне і святочны канцэрт.*

***13 — 14 снежня** — майстар-класы, круглы стол, фальклорны вечар.*

*Рэгістрацыя ўдзельнікаў 12 снежня а 11-й гадзіне ў 511 аўд. (БУК). Даведкі па тэл.: 222-83-22.*

## Вёска — праблема нацыі

# "ПРЫВІТАННЕ, СЕРЖ!"

Тое, што моладзь у правінцыі ў культурніцкім плане "гаруе", гэта не проста факт рэчаіснасці, а сама рэчаіснасць. Я сам уласна неадназова пісаў пра закінутыя клубы, пра адсутнасць у вёсках і мястэчках месцаў культурнага адпачынку. І нават там, дзе яны і прысутнічаюць, дык слова "культурны" проста сюды не стасуецца. Жаласны стан бібліятэк, дзе катастрафічны дэфіцыт фондаў, адсутнасць патрэбнага абсталявання. Няма не тое што дзівосных для сельскай мясцовасці камп'ютэраў, але і механічных друкаваных машынак.

Таму і блукаюць па вёсках альбо невялікіх гарадках п'яныя прывіды людзей, накшталт 20—30-гадовага Васіля з Бягомля, які ў басаножках, абутых—адзін на босую нагу, другі на дзіравую шкарпэтку, у сініх збуцвелых, інкаш не скажаш, спартовых нагавіцах, у бруднай майцы "падрулю" да нашага аўтобуса "сшыбануць" цыгарэтку. Яго чырвоныму, у зялёныя плямы, целу быў "да фені" халодны дождж.

— Чым займаешся, — спытаў я, працягваючы яму пачак.

— Хэ, — глуха выдыхнуў ён, — ды нічым. Зараз папалю і пайду да сябрука "даганяцца". Можна дзве... А чатыры?

Дрыготкімі пальцамі ён вытрас амаль паўпачака, развярнуўся і падыбаў да зусім неапісальна брутальнай грамадскай прыбіральні, адкуль "вываліў" яго сябрук — падлетак гадоў 14—15. Яны ішлі "даганяцца".

Але ўсё ж на правінцыі ёсць людзі, якія яшчэ не скарыліся зялёнаму цмоку. А выратоўвае іх ад гэтага цяга да культуры, да творчасці. Але што ім у закінутым Богам кутку рабіць, калі не існуе адваротнай сувязі з культурнымі цэнтрамі, з аднадумцамі і калегамі, няма з кім параіцца, паразважаць.

Гэтак паўтара гады таму я па журналісцкім заданні быў у Горках і Горацкім раёне. Там былі вечарыны за гарбатай, доўгія размовы пра творчасць і мастацтва. І вось нечакана праз столькі часу ў рэдакцыю "К" прыйшоў ліст ад чалавека, імя якога я нават не ведаю.

"Прывітанне, Серж!

Ты, напэўна, не помніш мяне. Я той маленькі, хіленькі хлопчык, які "даставаў" цябе сваімі недарэчнымі пытаннямі падчас твайго наведання БСГА ў г. Горкі. Прабач, што турбую цябе яшчэ раз, але я, нарэшце, панабіраўся нахабства і вырашыў даслаць вершы — свае і, на асобным аркушыку, свайго знаёмага. Калі ласка, калі табе не цяжка, напішы пару радкоў пра тваё альбо тваіх знаёмых меркаванне аб іх. Калі яны табе не спадабаюцца, усё роўна напішы. Мне надакучыла займацца літаратурным трызненнем і мяне не цікавіць станоўчы водгук, мне неабходны погляд чалавека з густам. Адзіны, да каго я магу звярнуцца, — гэта ты.

**P.S.** Калі ласка, не дай мне задыхнуцца ад уласных сумненняў дзесьці паміж 19-м і 91-м гадамі жыцця.

**Шаўко А.І."**

І трэба сказаць, што вершы са сваім уласным гучаннем і стылістыкай. Гэта паэзія. Але што далей? Дзе паэзія з глыбінкі, душа народа, можа быць апублікавана? Дзе ўвогуле пачуюць і адчуюць словы тых, хто воляй свайго лёсу знаходзіцца не ў вялікіх гарадах, а ў маленькіх вёсках? Увогуле на Беларусі сярод дзяржаўных выданняў да гэтага часу ўсё было даволі гарманічна. Самая высакаўзроўневая, прызнаная прафесійная літаратура друкавалася ў "Полымі". Філасафічная і культуралагічная літаратура ў часопісе "Крыніца". Таксама для тых, хто ўжо мае творчы патэнцыял, існуе часопіс "Маладосць". А вось для тых, хто пачынае, хто адчувае, што яго душа патрабуе выказацца, выдаецца часопіс "Першацвет". У выпадку з вышэйпрыведзеным лістом, я напісаў бы пэўныя крытычныя развагі і параіў бы аўтарам вершаў падрыхтаваць публікацыю для "Першацвета". Варта адзначыць, што часопіс маладых літаратараў добра спраўляўся са сваёй задачай. З самых аддаленых куткоў Беларусі і нават маладыя беларускія літаратары з Расіі дасылалі ў "Першацвет" свае творы. Але раптам "Першацвет" пазбаўляюць фінансавання. Людзі плоцяць падаткі, і гэтыя грошы павінны даваць і духоўную аддачу.

Так, можна спрачацца пра стыль, метады і творчы почырк, які склаўся ў часопісе "Першацвет", але тое, што выданне было карысным (прабачце, да Новага года яшчэ ёсць), гэта аспрэчваць немагчыма. Нават мастацка-літаратурны рух Бум-Бам-Літ, які мае іншыя эстэтычныя арыенціры, усё роўна негатыўна ўспрымае тое, што "Першацвет" хочуць пазбавіць фінансавання.

Цяпер я не ведаю, што мне адказаць маладым паэтам з Горак. Магчыма, наступнае: "Пішыце, хлопцы, у стол, чакайце іншага часу і ўсё ж паспрабуйце праз шчыліны шуфлядак не задыхнуцца і не паддацца агульнай хваробе глыбінкі — зялёнаму цмоку. Пастарайцеся самі "закансерваваць" сябе, а тым самым захавацца".

**Серж МІНСКЕВІЧ**

# КНІЖНЫЯ СКАРБЫ НА ДНЕ ВЫДАВЕЦКАГА КУФРА

***Сёлета ў красавіку мы ўжо рабілі падборку інфармацыі аб навінках кнігадруку, што з'явіліся на Беларусі. Тады была спроба наладзіць супрацоўніцтва з Нацыянальнай кніжнай палатай Рэспублікі Беларусь. Спроба аказалася ўдалай. І таму мы вырашылі працягнуць практыку падачы матэрыялаў аб кнігах у інфармацыйных нумарах нашай газеты.***

### "КЛІЧ РОДНАГА ЗВОНА"

Гэтак называецца новая кніга вядомага празаіка, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Генрыха Далідовіча, што выйшла ў выдавецтве "Юнацтва". Тут і раман "Кліч роднага звона" — пра першыя самастойныя крокі, узвышэнне Навагародка як горада, княства і цэнтра будучай дзяржавы ў далёкім XIII стагоддзі, і новыя апавяданні з цыкла "Жар кахання", і разважанні сталага ўжо творцы пра жыццё і літаратуру.

### "ПРЫГОДЫ ЎДАЛАГА САЛДАТА ШВЕЙКА"

Нарэшце мы атрымалі выдадзены з добрым паліграфічным густам выдатны твор чэшскай літаратуры на беларускай мове (пераклад Алеся Мажэйкі), што выйшаў у серыі "Школьная бібліятэка" ў выдавецтве "Ураджай". Сатырычны раман Ярослава Гашака (1883 — 1923) "Прыгоды ўдалага салдата Швейка" — бліскучая антываенная эпапея, якая ахоплівае падзеі ў Аўстра-Венгрыі напярэдадні першай сусветнай вайны і ў першыя яе гады. Гашак выкрывае тупасць, бяздушнасць і бессэнсоўнасць ваеннай і дзяржаўнай машыны, што ў канчатковым выніку прывяла Аўстра-Венгерскую імперыю да поўнага развалу. Наклад кнігі пяць тысяч экземпляраў.

### "МАКСІМ БАГДАНОВІЧ"

У выдавецтве "Беларуская навука" выйшла кніга Івана Навуменкі, прысвечаная Максіму Багдановічу. У выданні ў значнай меры па-новаму, з прыцягненнем невядомых крыніц, фактаў, матэрыялаў разглядаецца творчасць выдатнага беларускага паэта ў яе сувязях з літаратурнымі плынямі пачатку XX стагоддзя — сімвалізмам і асабліва імпрэсіянізмам. Значная ўвага надаецца ўздзеянню на паэзію М.Багдановіча класічнай рускай паэзіі, фальклору і міфалогіі. М.Багдановіч прадстаўлены як перакладчык, крытык і публіцыст.

### "АЙВЕНГА"

У серыі "Школьная бібліятэка" ў выдавецтве "Полымя" выйшла кніга англійскага пісьменніка-класіка Вальтэра Скота "Айвенга". Раман прысвечаны гістарычным падзеям у Англіі XII стагоддзя. Пераклад сусветнавядомага твора на беларускую мову зроблены Людмілай Забалоцкай. Наклад выдання пяць тысяч асобнікаў.

### "БЕЛАРУСЬ ПАМІЖ УСХОДАМ І ЗАХАДАМ"

Гэтае выданне выйшла ў Нацыянальным навукова-асветніцкім цэнтры імя Ф.Скарыны пры ўдзеле Аддзялення культуралогіі і духоўных сувязей суседніх народаў, Міжнароднай Акадэміі навук Еўразіі, Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў. У кнізе змешчаны матэрыялы II Міжнароднага кангрэса беларусістаў, які адбыўся ў Мінску ў маі 1995 г. і быў прысвечаны праблеме "Беларусь паміж Усходам і Захадам".

Кніга разлічана на навукоўцаў, студэнтаў, дзяржаўныя органы і грамадскія арганізацыі, якія займаюцца або цікавяцца праблемамі міжнацыянальнага, міжрэлігійнага і міжкультурнага ўзаемадзеяння, зарубежных беларусістаў. Дарэчы, гэты выдавецкі праект адбыўся дзякуючы Беларускай Фондавай Біржы і Фонду "Заходне-ўсходнія сустрэчы". Рэдактары выдання: дактары філасофскіх навук — Уладзімір Конан, Адам Мальдзіс і Генадзь Цыхун.

### "СЛОВА ПАМЯЦІ"

Аршанская друкарня выдала кнігу Генадзя Вінніцы. У гэтым выданні ўзнаўляецца памяць аб жахах другой сусветнай вайны, захоўваецца для наступных пакаленняў адмоўнае стаўленне да падобных катаклізмаў і жаданне да барацьбы супраць любых антычалавечых праяў.

### "ЗІГМУНД ФРЭЙД"

Гэтая кніга падрыхтавана ў Мінскім выдавецтве "Попурри". Сёння тэксты Зігмунда Фрэйда перавыдаюцца вялікімі накладамі. Фрэйд развіў тэорыю псіхасексуальнага індывіда, у фармаванні характару і ягонай паталогіі галоўную ролю адводзіў перажываннем ранняга дзяцінства. Думаецца, што новае перавыданне твораў Фрэйда не застанецца па-за ўвагай чытача.

### "ПАЛІТЫЧНЫЯ МЫСЛЯРЫ"

У Мінскім БДЭУ выдадзены вучэбны дапаможнік для студэнтаў вышэйшых навучальных устаноў, тэхнікумаў, вучэльняў — для ўсіх, хто цікавіцца пытаннямі паліталогіі. Аўтары кнігі — Бабкоў, Браім, Яфрэменка, Карніловіч, Кузняцоў, Мельнікаў, Асмалоўскі, Самарадаў. У выданне ўключаны невялікія біяграфічныя даведкі аб 23 мыслярах розных эпох і народаў, а таксама асноўныя ідэі іх погляду на будаўніцтва грамадства, дзяржавы, адносіны паміж чалавекам і дзяржавай.

**Інфармацыю падрыхтаваў Зміцер ВОЛКАЎ**







Іван Навуменка
МАКСІМ БАГДАНОВІЧ

***Вёска — праблема нацыі***

# СЕАНС РОК-ТЭРАПІІ ДЛЯ ПРАВІНЦЫІ

Нядаўна ў вёсцы Абухава, што на Гарадзеншчыне, прайшоў рок-фэст, які, па сутнасці, з'явіўся адной з першых спробаў арганізацыі падобных мерапрыемстваў у глыбінцы. Магчыма, рок-фэст прайшоў яшчэ не вельмі, скажам, упэўнена, але ж, можна лічыць, пачатак пакладзены...

Населены пункт Абухава больш нагадвае гарадскі пасёлак — мураваныя дамы, добрыя сядзібы, шматпакаёўкі, але ўсё ж гэта вёска. Заможная, сучасная.

— У прынцыпе ў нас ёсць усё для для правядзення дасканалага вольнага часу, — кажа малады жыхар Абухава Андрэй Янушкевіч: — Выдатная атлетычная зала, вялікая спартыўная зала, дзе нават праводзіліся абласныя спаборніцтвы па гандболе, басейн, які могуць наведваць вяскоўцы, добры Палац культуры, дзе хлопцы і дзяўчаты могуць збірацца. Але, магчыма, адвечная вясковая замкнутасць уплывае на душэўны стан сялянскай моладзі. Я, напрыклад, паступіў у Гарадзенскі універсітэт, вучуся на археолага і з боку заўважаю, які мае равеснікі, якія засталіся працаваць у вёсцы, а некаторыя з іх былі выдатнікамі, таленавітымі юнакамі, паступова падпадаюць уладзе нейкай усюдыіснай абыякавасці. Нават у Гародню з'ездзіць на выставу, канцэрт — няма цікавасці, ужо цяжка прайсці пару кіламетраў да станцыі Жыдомля, а там на электрычцы да горада і рукой падаць. Шчыра кажучы, балюча назіраць, як маладыя хлопцы ўсё часцей і часцей прыкладаюцца да пляшкі, што выступае ў якасці сурагату часовага душэўнага камфорту. А каб пераадолець гэту адвечную вясковую самаадданасць, самаадцуранасць і замкнутасць, мне здаецца, трэба наладжваць у вёсцы акрамя выступленняў уласных калектываў яшчэ і адкрытыя мерапрыемствы, накшталт рок-канцэртаў, бардаўскіх злётаў, каб сяляне не толькі шклоўзёнай бачылі адны і тыя ж твары, а сустракаліся з цікавымі людзьмі з другіх мясцін і захапляліся, здзіўляліся іхняй творчасці дый і сваёй маглі пахваліцца, паспаборнічаць. Іншымі словамі, самі былі б уцягнутыя ў вір вялікага культурнага жыцця, няхай і не такога, як у сталічных гарадах...

Увогуле плынь культурнага жыцця ў Абухаве ніколі не застойвалася. Палац культуры, што прэста ў выдатным стане, чысты, ацяпляецца, пад началам дырэктара Аляксандра Барысевіча працуе, як кажуць, "пад завязку". Пры ім існуюць некалькі народных і ўзорных калектываў. Гэта народны ансамбль песні і музыкі "Рукавічкі", народны тэатр пад кіраўніцтвам самога дырэктара, народны ансамбль духавых інструментаў, узорны ансамбль танца "Лялечкі" і інш.

— У нас яшчэ працуе народны ансамбль эстраднай песні, — расказвае Аляксандр Барысевіч, — а пры ім існуе Юнацкая студыя эстраднай песні. Ведаеце, галоўнае — не адставаць ад подыху сучаснасці. У нас на працягу года адбываецца многа цікавых мерапрыемстваў. На Новы год прайшоў наш традыцыйны карнавал, дзе на жартаўлівым аўкцыёне выстаўляўся "залаты білет" — бясплатны пропуск на ўсе канцэрты, што ладзяцца ў нашым Палацы культуры. І трэба сказаць, што людзі прыходзяць, не скажу, што заўсёды поўная зала, але каля палавіны збіраецца... Фальклор — гэта нашыя карані, заўжды ёсць і будзе, і падтрымліваць мы яго будзем, аднак моладзь пачала цікавіцца эстрадай і рокам. І вось каб не ўпусціць час і моладзь, у нас узнікла ідэя арганізаваць на базе нашага Палаца культуры рок-фестывалі. Гэта цяпер, увосень, мы паспрабавалі міні-рок-фэст у нашым памяшканні, а вялікае мерапрыемства плануем праводзіць летам. У нас ёсць цудоўная мясціна. Тут, непадалёк, рака Котра робіць прыгажэйшую лукавіну. І на гэтай паўвыспе ёсць як бы ўпадзіна, на дне якой можна паставіць эстраду, а вакол будуць размешчаны гледачы. За імі можна паставіць намёты, а побач раскласці вогнішчы, павесіць вялікія чаны, варыць юшку, частаваць гасцей. То будзе сяброўскае, адкрытае, музычнае свята. Мы спадзяемся, што на ім будзе нараджацца сумоўе паміж нашымі людзьмі і выступоўцамі. Яны ж адзін аднаму патрэбныя. Музыкам проста неабходна выступаць і няхай хваляцца свамі новымі ідэямі, вынаходніцтвамі і выкрунтасамі, а нашым людзям неабходныя новыя формы таварыскасці, каб яны былі самі ўцягнутыя ў тое, што называецца творчы працэс. А гэта, менавіта, гэта і нішто больш за гэта не дае адчування паўнавартаснага багатага жыцця.

А на восеньскім міні-рок-фэсце выступалі дзве каманды з Гародні "Кальян", "Devetion", і "Жахліва Аптымістычныя Хлопцы" (ЖАХ) з Мінска. Каманды маладыя, у іх яшчэ ўсё наперадзе, дый у рок-фестывалю таксама. Можна спадзявацца, што пробны шар, хоць каціўся не вельмі роўна, але ў лузу патрапіў. Будзем чакаць вялікай гульні...

**С.М.**

21.30 Добры вечар.
23.00 Своечасова.
23.10 Лесвіца ў неба.
23.45 Кафэ "Абломаў".

**"Культура"**

7.00 Музычны экспромт.
7.15, 13.00, 19.30, 23.00 Навіны культуры.
7.30 "Кішэнны тэатр". Спектакль.
9.00, 11.00, 15.00, 17.00 Навіны.
9.05 Залатая карта Расіі.
9.30 "Парадоксы гісторыі". "Нататкі жанчыны ў чорным".
10.00 "Дзень імені Нобеля". Дак. фільм.
10.30 "Чырвоны космас". "Жыццё і смерць". Фільм 5-ы.
11.05 "Дварцовая плошча. Стагоддзі XIX і XX".
11.30 "Камо грядеши?" Маст. фільм. 6-я серыя.
12.30 З любоўю да музыкі.
13.20 "Культура гарадоў свету". Манчэсцер.
13.25 А. Купрын. "Брэгет".
14.00 "Легенды Вялікага..."
15.05 Пілігрым.
15.35 "Чэленджэрс". Серыял.
16.00 "Падарожжа ў часе".
16.30 Вальсы з балетаў.
16.45 Кіберкультура.
17.05 "2003 год".
17.10 Шчаслівы Шолці.
18.00 Лукамор'е.
18.20 Новае кіно.
19.00 "Чырвоны космас". "Я быў ценем касманаўта". Фільм 6-ы.
19.50 "Рышэльe". Маст. фільм. 1-я серыя.
20.45 "Паэзія і праўда жыцця". Частка 2-я.
21.20 Рамансы ў выкананні З. Саткілавы.
21.40 Дак. фільмы. "З раніцы ішоў снег", "Стаянка", "Па мясцовым часе", "Агонь".
22.40 Начны госць.
22.55 Праграма перадач.
23.20 Музычны экспромт.

**НТБ**

5.00, 9.00 Сёння раніцай.
8.05 "Круты Уокер: правасуддзе па-тэхаску".
9.15 Перахват.
10.00 Лепшыя цыркі свету.
11.00, 13.00, 15.00 Сёння ўдзень.
11.20 Стары тэлевізар.
12.45 Тэлемагазін.
13.20 "Добры чалавек у Афрыцы". Маст. фільм (ЗША).
15.20 "Вуліца Сезам".
15.50 "Каханне і тайны Сансет Біч". Серыял.
16.40 "Іспанія пасля Франко". Дак. серыял.
17.10 У запас.
17.20 Крымінал.
17.30 Хакейны клуб.
18.00, 21.00 Сёння ўвечары.
18.40 Герой дня.
19.00 Баявік "Крывавы кулак: навучаны забіваць".
21.45 "Доктар Куін, жанчына-ўрач".
22.35 Сённячка.
23.00 Сёння апоўначы.
23.25 Агляд матчаў лігі чэмпіёнаў.
00.25 Фігурнае катанне. Чэмпіянат Расіі.
00.55 Баскетбол. Агляд матчаў чэмпіяната НБА.
1.10 Амерыканскі футбол. Агляд матчаў.

**8-ы канал**

18.00 Вывучаем французскую.
18.30 Праграма Кенета Копланда.
19.00 "Квенцін Дорвард". Серыял.
22.00 Навіны "К-відэа".
20.30 Вечарніца.
20.45 "Вечны покліч". 8-я серыя.
22.00 Музычны канвеер.
23.00 "Today".

## Пятніца, 12 снежня

**Беларускае тэлебачанне**

7.30 Ранішні кактэйль
7.45 "Музычная абойма". Беларускі хіт-парад.
7.50 Аўтапарк.
8.00 Навіны.
8.10 "Тэлебарометр".
8.20 Роднае слова. Кнігазбор.
8.50 "Дзе лебедзі зімуюць". Дак. фільм.
9.00 Тэлебачанне — школе. Гісторыя Беларусі. 10-ы клас. Вялікае княства Літоўскае.
9.30 Эканамікст.
9.40 Бархатны сезон. Музычна-забаўляльная праграма.
10.10 "Усе мы родам з дзяцінства". Трэці ўсебеларускі тэлефестываль юных талентаў. Гродзенская вобласць. Частка 3-я.
11.15 Т. Карпава і П. Кармунін у шырокаэкранным маст. фільме "Цешча" ("Беларусьфільм).
12.20 Зорная ростань. Тэлеконкурс маладых артыстаў эстрады.
13.00—13.10 Навіны.
15.00 Навіны.
15.15 Відэакурс нямецкай мовы. Перадача 15-я.
15.35 "Пекар і гультай", "Мама для маманцяняці". Мультфільмы.
15.50 "Пераход" Перадача для падлеткаў.
16.20 "Мае гады — маё багацце". Тэленарыс пра самадзейную паэтэсу і спявачку З. І. Крайко.
16.45 "Беларускі мерыдыян". Памятныя і гістарычныя мясціны Астравеччыны.
17.00 Музычны антракт.
17.10 "Птушыная восень". Дак. фільм.
17.20 Кола часу. "Слова пра Дзяржынскага". Да 120-годдзя з дня нараджэння.
17.45 Эканамікст.
17.55 "Музычная абойма". Беларускі хіт-парад.
18.00 Навіны (з сурдаперакладам).
18.15 Рэклама.
18.20 Т. Карпава і П. Кармунін у маст. фільме "Цешча" ("Беларусьфільм").
19.25 Тэма дня.
19.40 Міжнародны кур'ер. Падзеі, факты, каментарыі.
20.05 "У джазе толькі дзяўчаты". Забаўляльная праграма.
20.30 Музычны антракт.
20.40 Калыханка.
21.00 Панарама.
21.50 Н. Нягода, А. Дзіваў у маст. фільме "Назад у СССР" (ЗША).
23.20 Акалада.
23.50 Навіны.
24.00 КВЗ. Фінал 1-й лігі чэмпіянату Рэспублікі Беларусь.

**ГРТ**

7.15 Доблесць Расіі. Фільм "Пётр Першы". 1-я серыя.
9.00, 14.00, 23.00 Навіны.
9.15 "Пётр Першы". 2-я серыя.
10.55 "Іграй, гармонік любы!"
11.30 Алег Даль у прыгодніцкім фільме "Зямля Саннікава".
13.05 Ала Пугачова ў гасцях у "Смехапанарамы".
13.55 Праграма перадач.
14.15 Здароўе.
14.45 Мультфільмы "Браты Пілоты паказваюць адзін аднаму навагоднія фокусы", "Браты Пілоты часам ловяць рыбу", "Браты Пілоты вырашылі папаляваць", "Ну пачакай!".
15.35 Песня-97.
16.25 "Флаг. Герб. Ордэн". Гісторыя расійскай сімволікі.
16.50 Рамантычная камедыя "Паненка-сялянка".
18.45 Надвор'е.
18.55 "Поле цудаў".
20.00 Час.
20.40 Валдзіс Пельш у новай праграме "Паддашак Фруціс".
21.10 Залатая серыя. Прыгодніцкі фільм "Піраты XX стагоддзя".
23.15 Спявае Сафія Ратару.

**"Расія"**

6.30 Ранішні экспрэс.
7.25 "Мак і Матлі". Тэлесерыял (ЗША).
7.50 "Выпадак". Тэлефільм.
8.00 Парламенцкі веснік.
8.25 Прагноз надвор'я.
8.30 "Трэба жыць гуляючы". Конкурсная праграма.
8.45 "Мемарына". Тэлегульня.
9.10 Добрай раніцы, краіна!
10.00 Весткі ў адзінаццаць.
10.20 "Гарадок". Забаўляльная праграма.
10.55 Сялянскі поўдзень.
11.20 Федэрацыя.
11.45 На дарогах Расіі.
12.05 Моніка Віці ў тэлесерыяле "А ты мяне кахаеш?"
13.00, 19.00 Весткі.
13.30 Двайны партрэт.
14.00 Тэлескоп.
14.30 Новае "Пятае кола".
14.55 Кніжная лаўка.
15.20 Лепшыя гульні НБА.
16.00 Дак. фільм "Гэта Масква".
16.30 Праграма "Рэпарцёр" прадстаўляе лаўрэатаў 2-га адкрытага Расійскага тэлефоруму "Новаму часу — новае тэлебачанне".
17.00 "Глядзі ў корань" (Варонеж).
17.30 "Ля мора, ля сіняга мора" (Растоў-на-Доне).
18.00 "В. Кастрычнік. Цені любві".
18.15 "Асцярожна, мадэрн!" (Санкт-Пецярбург).
19.35 Яўген Мацвееў, Галіна Польскіх, Ларыса Удавічэнка і Мікіта Джыгурда ў фільме "Кахаць па-руску".
21.20 Сам сабе рэжысёр.
22.00 5-я цырымонія ўручэння Нацыянальнай прэміі "Авацыя".
23.45 Эмануіл Вітарган і Ала Балтэр у кінамемуарах Міхаіла Каліка "І вяртаецца вецер..."

**"Культура"**

7.00 Музычны экспромт.
7.15, 13.00, 19.30, 23.00 Навіны культуры.
7.30 "Гаспадыня гасцініцы". Фільм-спектакль.
9.00, 11.00, 15.00, 17.00 Навіны.
9.05 Залатая карта Расіі.
9.35 Шчаслівчык Шолці.
10.30 "Чырвоны космас". "Я быў ценем касманаўта". Фільм 6-ы.
11.05 Культура — гісторыя. "Строганавы ў Пецярбургу".
11.30 "Рышыльe". Маст. фільм. 1-я серыя.
12.25 Спявае Л. Мкртчан.
13.20 "Культура гарадоў свету". Порт у Ніжняй Саксоніі.
13.30 "Плошча мастацтваў". Дырыжор М. Янсанс.
14.15 Барыс Месерар.
15.05 Паўгадзіны на цуды.
15.40 Серыял "Чэленджэрс".
16.05 "Падарожжа ў часе".
16.45 Кіберкультура.
17.05 "2003 год". Да 300-годдзя Санкт-Пецярбурга.
17.10 Музыка з Пецярбурга. "Дон Жуан ад паўдня да ўсходу".
17.50 Лукамор'е.
18.10 "Вечар с..." Л. Касаткінай.
19.50 "Рышыльe". Маст. фільм 2-я серыя.
20.45 Е. Колабаў і "Новая опера".
21.45 "Падарожжа да Набокава". Праграма І. Залатускага.
22.40 Начны госць.
22.55 Праграма перадач.
23.20 Музычны экспромт.

**НТБ**

7.00 Сёння раніцай.
7.20 "Прыгоды Электроніка". Маст. фільм.
11.00 Сёння ўдзень.
11.20 Стары тэлевізар.
12.30 Маскі-шоу.
13.00 Маст. фільм. "Добры дзень, я ваша цёця!"
14.45 Мультфільм.
15.20 Гісторыка-прыгодніцкі фільм "Шауны — лясныя разбойнікі".
18.00, 21.00 Сёння ўвечары.
18.40 Фігурнае катанне. Чэмпіянат Расіі.
19.10 Трылер "Сківіцы: помста" (ЗША).
21.40 Прэм'ера. Баявік "Брат".
23.40 Шоу Мікалая Фаменкі "Імперыя страсці". Праграма з удзелам чытачоў "АиФ".
0.20 Эратычныя шоу свету. "Эмануэль, скрытая фантазія-1", "Эмоцыі".

**8-ы канал**

18.00 Мульт-планета.
18.30 Праграма Кенета Копланда.
19.00 Серыял "Квенцін Дорвард".
20.00 Аэробіка "Новы Эдэм".
20.25 Ваша рэклама. Турызм.
20.45 Маст. фільм "Вечны покліч", 8-я серыя.
22.00 Спорт-action.
22.30 Кінакамедыя "Прыдуркаватыя".

## Субота, 13 снежня

**Беларускае тэлебачанне**

8.00 Навіны.
8.10 Здароўе. Як захаваць голас і слых.
8.40 Міжнародны кур'ер. Падзеі, факты, каментарыі.
9.05 "Усё пра ўсё". Інфармацыйна-пазнавальная праграма для дзяцей.
9.30 Урокі Наталлі Наважылавай.
10.00 Рэгіён. Перадача з Гомеля.
10.30 Лёс мой і надзея. Сацыяльная рэабілітацыя інвалідаў.
11.00 Вока. Пра рэкламу і не толькі...
11.25 "Усё нармальна, мама!" Забаўляльная праграма.
12.00 "Сусвет". Навукова-папулярны тэлечасопіс.
12.30 Творчае аб'яднанне "Тэлефільм" прадстаўляе: дак. фільм "Рыбацкае шчасце".
12.55 "Музычная абойма". Вынікі тыдня.
13.10 Шматгалоссе. Народы Беларусі: гісторыя, культура, быт.
13.40 Радавод. "Рэгіянальныя звычаі". Вёска Моталь Іванаўскага раёна.
13.55 "Макаёнка,9". Інфармацыйна-аналітычная праграма па пісьмах гледачоў.
14.15 "Вытокі духоўнасці". Тэленарыс.
15.00 Навіны.
15.20 Тэлеспорт.
16.05 "Зорка Афанасія". Прэм'ера дак. фільма студыі "Летапіс".
16.30 Творчае маладзёжнае аб'яднанне "Крок". "Рызыка-версія".
17.00 Беларускі дом. Мастацка-публіцыстычная праграма.
17.30 "Зорная ростань". Гродзенска-Віцебскі тур.
18.05 Галерэя. Міжнародны грасмайстар па стаклетачных шашках Анатоль Гантварг. Аўтарская праграма Таццяны Ягоравай.
18.35 Рэклама.
18.40 Па вашых просьбах. І. Смактуноўскі, А. Даль, В. Глаголева у маст. фільме "У чацвер і больш ніколі".
20.15 Гісторыя кахання. Тамара і Арнольд Стасюкі.
20.35 Рэклама.
20.40 Калыханка.
20.55 Рэклама.
21.00 Панарама.
21.45 Рэклама.
21.50 Тэленавігатар.
22.10 Рэклама.
22.15 "Сінема". Маст. фільм рэжысёра О. Стоуна "Сальвадор" (ЗША). 1-я частка.
23.24. Рэклама.
23.25 Відзьма-нявідзьма.
0.24 Рэклама.
0.25 Трэці тайм.

**ГРТ**

6.35 Доблесць Расіі. Фільм "Сувораў".
8.20 Рыбацкія гісторыі ў праграме "Ёрш".
8.40 Лато-мільён.
8.45 Слова пастыра. Мітрапаліт Кірыл.
9.00, 14.00, 17.00 Навіны.
9.10 Хатняя бібліятэка.
9.30 Ранішняя пошта.
10.10 "Каламбур". Гумарыстычны часопіс.
10.45 Смак.
11.05 "Вяртанне Траццякоўкі. Гісторыя аднаго шэдэўра".
11.30 "Амерыка з М. Таратутам".
12.00 Сяргей Ніканенка і Мікіта Міхалкоў у фільме "Інспектар ДАІ".
13.25 "Відавочнае — неверагоднае".
14.20 "Мая сям'я: Новыя часы, новыя норавы".
15.00 Мультфільмы "Браты Пілоты гатуюць на снеданне макарончыкі", "Браты Пілоты вечарамі п'юць чай", "Браты Пілоты здымаюць кліп для MTV", "Ну, пачакай!"
15.40 У свеце жывёл.
16.15 "Як гэта было". Белавежская пушча. 1991 год.
17.20 "Адгадай мелодыю!".
17.45 Надвор'е.
17.55 "Спрут-2".
19.10 "Джэнтльмен-шоу".
19.45 "Добрай ночы, малышы!"
20.00 Час.
20.55 Што? Дзе? Калі?
22.30 "Калекцыя Першага канала". Роберт дэ Ніра ў трылеры Марціна Скорсезе "Мыс страху".

**"Расія"**

6.30 Праграма перадач.
6.35 "Кошка, якая гуляла сама па сабе". Мультфільм.
7.50 "Чырвоная кніга". Экалагічная экспедыцыя РТР.
8.15 Парламентарый.
8.40, 16.50, 1.15 Прагноз надвор'я.
8.45 Ва ўсіх на вуснах.
9.15 Блакітны агеньчык.
13.00, 19.00 Весткі.
13.30 "...За ружовым морам". Спявае Таццяна Аўсіенка.
14.00 В. Ціханаў у Фільме С. Растоцкага "Дажывём да панядзелка",
15.55 "Аншлаг" і К°.
17.00 Зусім сакрэтна.
17.55 Старая кватэра. Год 1961-ы Частка 1-я.
19.35 Музычны рынг — новае пакаленне.
21.25 Добры вечар.
22.20 Рускі бой.
23.20 Подыум д'Арт.
23.50 Гарачая дзесятка.
0.45 Праграма "А".
1.20—1.25 Тавары — поштай.

**"Культура"**

9.00 Праграма перадач.
9.10 Акварыум. "Гульня са змеямі і яшчаркамі". Частка 2-я.
9.40 "Дыяпазон". "Малпаў востраў". Фільм І. Вейценкі.
10.10 А. Баталаў. "Горад цудоўны, горад старажытны..."
10.15 "Масква золатагаловая". Дак. фільм.
10.40 Ток-шоу "Наўздагад".
11.10 "Рэпетыцыя аркестра". Маст. фільм.
12.20 "Пакуль любяць і помняць". А. Вярэйскі.
13.00, 21.00 Навіны культуры.
13.20 Гурмэ.
13.35 "Фантазія". Спектакль.
14.45 "Шэкспірыяда". 6-я серыя.
15.15 "Панядзелак пачынаецца ў суботу". Праграма для дзяцей.
15.30 Вольга Лепяшынская: сцэны з жыцця.
16.10 "Успышка". Навіны фестывальнага кіно.
16.30 "Асабістая справа" Ілья Глазуноў.
17.00 Навіны.
17.05 "2003 год". Да 300-годдзя Санкт-Пецярбурга.
17.10 Блеф-клуб.
17.45 Дэма.
17.55 "Лёс, лёсам, аб лёсе". Дак. фільм. "Дом Бенуа". Частка 1-я.
18.45 "Царская ложа". В. Герало.
19.15 "Дрэва жадання". Маст. фільм.
21.20 "Багема Нью-Йорка".
22.05 Запаліце свечкі. Г. Хомчык.
22.15 "Я смяюся, каб не заплакаць". Клара Новікава.
23.00 Іграе піяніст Ж. П. Арманга.

**НТБ**

7.00 Камедыя "Стары коннік".
8.35 Мультсерыял "Гарац".
9.00 Сёння раніцай.
9.10 "Вынікі" з Віктарам Шандаровічам.
9.30 Тэлегульня "Зразумей мяне".
10.00 Свет прыгод і фантастыкі. "Дзіўныя вандраванні Геракла".
10.45 Ад "Вінта".
11.00, 15.00 Сёння ўдзень.
11.15 Тэлегульня "Пападзі ў кадр".
11.45 Крымінал. "Шчырае прызнанне".
12.00 Хакей. Чэмпіянат НХЛ.
14.30 Камедыйны серыял "Караліна ў Нью-Йорку (ЗША).
15.15 Надоечы-61.
16.00 Серыял па выхадных. "Вяртанне ў Брайдсхед" (Вялікабрытанія).
17.00 Дог-шоу. Я і мой сабака.
17.30 Герой дня без гальштука.
18.00, 21.00 Сёння ўвечары.
18.40 Фантастычны трылер "Нешта" (ЗША).
20.45 Лялькі.
21.50 Перахват. Генеральны спонсар — "Аргументы і факты".
22.45 Мультфільм для дарослых "Байкі са склепа" (ЗША).
23.10 "Пра гэта". Ток-шоу.
23.50 Начны канал. "Плэйбой-шоу".

**8-ы канал**

15.00 Джойс Маер "Жыццё ў слове".
15.30 Вывучаем французскую мову).
16.00 Фільм Франсуа Беля "Кіпцюр і зуб".
17.45 Маст. фільм "Гонкі па вертыкалі", 1-я серыя.
19.15 На-лі-вай!
19.45 Вечарніца.
20.00 Серыял "Багач, бядняк".
21.15 Тэлечасопіс "Суперзоркі Галівуда".
21.45 Маст. фільм "Нароўні з бацькам".

## Нядзеля, 14 снежня

**Беларускае тэлебачанне**

8.00 "Кактэйль па нядзелях".
9.00 Тэлебом.
9.30 "Уся справа ў капелюшы". Забаўляльна-пазнавальная гульня-віктарына.
10.00 Вяршыня свету. Тэлевіктарына.
10.35 "Усё нармальна, мама!". Забаўляльная праграма.
11.10 Тураб'ектыў. Падарожжы, сустрэчы, адпачынак.
11.30 Арсенал. Праграма для вайскоўцаў.
12.00 Народныя творы ў выкананні ансамбля "Чысты голас".
12.25 Вяскоўцы. Чэрвеньскі раён.
12.55 "Наконадні будучыні".
13.30 Алімп.
13.50 Існасць. Духоўная праграма.
14.20 "Залатыя ключы". Тэлефестываль народнай творчасці.
15.00 Навіны.
15.20 Бон тон. Тэлечасопіс моды.
15.50 Творцы. Рэжысёр Віктар Карпілаў.
16.55 "Крок". "Будні заставы "Рыбалы". Тэленарыс.
17.25 Па вашых просьбах. "Начны экіпаж". Маст. фільм.
19.05 Абібок.
19.40 Калыханка.
20.00 Рэзананс.
20.45 Рэклама.
20.50 "Тэлебарометр".
21.00 Гандбол. Чэмпіянат свету. Жанчыны. Фінал. (У перапынку — (21.45) — Спартыўны тэлекур'ер). Рэпартаж з Германіі.
22.30 Рэклама.
22.35 Ток-шоу "Карамболь" з удзелам Аляксандра Кальянава.
23.05 Рэклама.
23.10 "Сінема". Маст. фільм рэжысёра О. Стоуна "Сальвадор". Частка 2-я (ЗША).
0.05 Бархатны сезон. Музычна-забаўляльная праграма.

**ГРТ**

6.40 Доблесць Расіі. Фільм "Адмірал Нахімаў".
8.15 Мультфеерверк: "Прыгоды Вудзі я яго сяброў", "Ружовая пантэра".
8.55 Спортлато.
9.00, 14.00, 23.10 Навіны.
9.10 "Бесталковыя нататкі" Дзм. Крылова.
9.30 Пакуль усе дома.
10.10 Ранішняя зорка.
11.00 "Служу Расіі!"
11.30 "Іграй, гармонік любы!"
12.00 Сельскі тэлечасопіс.
12.30 Серыял "Падводная адысея каманды Кусто". "Прыцемкі на Алясцы".
13.20 Смехапанарама.
14.20 Клуб падарожнікаў.
15.05 Футбольны агляд.
15.35 Вялікі мультфільм. "Кругасветнае падарожжаКата ў ботах".
16.50 Леанід Якубовіч у тэлегульні "Кола гісторыі".
17.35 Надвор'е.
17.45 КВЗ-97. "КВЗ — Маскве!"
19.55 Кінаафіша.
20.00 Час.
20.35 Майкл Дуглас і Дэні дэ Віта ў прыгодніцкай камедыі "Жамчужына Ніла".
22.40 Праграма перадач.
22.40 "Запрашэнне да музыкі".
23.25 Новы французскі дэтэктыў "Паміж двух агнёў".

**"Расія"**

6.30 Ранішні экспрэс.
7.25 "Мак і Матлі". Тэлесерыял (ЗША).
7.45 "Пра Сідарава Вову". Мультфільм.
7.55, 12.05, 17.50, 23.35 Прагноз надвор'я.
8.00 Прысяга.
8.25 Новая Расія. Фестываль рэгіянальных праграм. "Справы губернскія, кастрамскія..." (Кастрама).
8.40 Дыялогі пра жывёл.
9.10 Добрай раніцы, краіна!
10.00 Весткі ў адзінаццаць.
10.20 Рускае лата.
11.00 Пульс.
11.30 Людзі і грошы.
11.55 "Кантрасты, канфлікты". Мультфільм.
12.10 "Касмадром". Тэлесерыял (ЗША).
13.00 Весткі.
13.30 Рэпарцёр.
14.00 Парламенцкая гадзіна.
15.00 Чароўны свет Дыснея. "Аладзін".
15.55 "Закон і парадак". Тэлесерыял (ЗША).
16.50 Доўгань-шоу.
17.20 Невядомая планета.
17.55 "Аншлаг" і К°.
19.00 Люстэрка.
20.10 "Капуснік" у Тэатры-кабарэ. Да юбілею галоўнага рэжысёра тэатра Рыгора Гурвіча.
22.05 "К-2" прадстаўляе: праграма Івана Дыхавічнага "Хітрасць".
23.05 Эх, дарогі!
23.40—23.45 Тавары — поштай.

**"Культура"**

9.00 Праграма перадач.
9.05 "Чароўная бутэлька". Казка.
9.30 "Звоняць, адчыніце дзверы". Маст. фільм.
10.45 У Ігара Д.
11.15 "Фармат".
11.35 Артадокс.
11.50 "Зоркі ў Крамлі". І. Архіпава.
12.35 Вандраванні і вандроўнікі. "Нацыянальныя паркі Амерыкі". Частка 1-я.
13.00, 21.00 Навіны культуры.
13.20 "Усё скончана". Спектакль.
15.30 "Чароўны чамадан". Праграма для дзяцей.
15.45 Кніжны скарб.
16.00 Парадоксы гісторыі. "Правакатар у партыі". "Народная воля".
16.30 "Становішча рэчаў". Вынікі навін культуры.
17.00 Навіны.
17.05 "2003 год". Да 300-годдзя Санкт-Пецярбурга.
17.15 "Каляндар Пецярбурга". Навіны культуры.
17.30 "Ціхі вечар". Аліса Фрэйндліх.
18.00 Незабыўныя канцэрты Яўгена Святланава".
18.50 "Лёс, лёсам, аб лёсе". Дак. фільм. "Дом Бенуа". Частка 2-я.
20.00 Працяг традыцый. Н. А. Аненкаў.
20.30 Джаз-клуб.
21.20 Праграма перадач.
21.30 "Зацменне". Маст. фільм.

**НТБ**

7.00 "Пятнаццацігадовы капітан", Прыгодніцкі фільм.
8.30 Мультсерыял "Гарац".
9.00 Сёння раніцай.
9.15 Навіны з Наталляй Антонавай.
9.30 Тэлегульня "Зразумей мяне".
10.00 "Дзіўныя вандраванні Геракла".
10.45 Ад "Вінта".
11.00, 15.00 Сёння ўдзень.
11.15 Паліцэйскія будні.
11.30 Век футбола.
12.00 Меладрама "Прывід кахання" (Італія—Францыя).
14.00 Свая гульня.
14.30 Маскі-шоу.
15.15 Вуснамі дзіцяці.
15.45 "Катоўская". Серыял.
16.00 Серыял па выхадных "Вяртанне ў Брайдсхед". Маст. фільм (Вялікабрытанія).
17.00 Вынікі. Прадмова.
17.30 Авантурная камедыя "Шчаслівая лэдзі" (ЗША).
20.00 Вынікі.
21.00 Баявік "Кобра" (ЗША).
22.45 Вынікі. Начная размова.
23.15 Вынікі. Спорт.
23.45 Кнопка плюс.
24.00 Містычная драма "Д'ябал".

**8-ы канал**

15.00 Сёння з Мерылін Хікі.
15.30 Мультфільм "Карта капітана Флінта".
16.30 Сафі Ларэн у гістарычнай драме "Эль Сід".
19.15 Трукачы Галівуда.
19.45 Вечарніца.
20.00 Серыял "Багач, бядняк".
21.15 Імперыя духу.
21.45 Навіны "К-відэа".
22.15 Жэрар Дэпардз'е ў маст. фільме "Мой бацька — мой герой".

# "ЛІСТАПАД"АЎСКІ ПРЫЗ — НЕ ФІГАВЫ ЛІСТОК НА "ОСКАРЫ"!

Хачу шчыра прызнацца, што надта зайздрошчу прадстаўнікам mass-media — сваім калегам, калі разгортваю газету і чытаю інфармацыю пра той ці іншы фестываль. Мне падабаюцца артыкулы, заўсёды роўныя паводле настрою. Асабліва, калі на паласе змешчаны фотаздымкі, якія не патрабуюць нават подпісу. Бо "зорку" ведаюць і ў профіль, і анфас.

Мой артыкул таксама будзе роўным і спакойным. Назіраючы дзеянні, якія адбываліся ў прэс-цэнтры і на "вялікім" экране сталічных кінатэатраў, мушу адзначыць, што фестываль фільмаў краін СНД і Балтыі на чацвёрты год свайго існавання нарэшце атрымаўся. Здаецца, Беларусь велізарнымі крокамі набывае абрысы кінематаграфічнай дзяржавы. Аматараў "закуліснага" жыцця акцёрскага істэблішменту просім не хвалявацца.

Конкурсная праграма форуму была насычанай і цікавай, нават дух перавесці ў перапынку паміж прэс-канферэнцыямі не было калі... Маркуйце самі: фільмы "Брат" Аляксея Балабанава, "Час танцора" Вадзіма Абдрашытава, "Злодзей" Паўла Чухрая... Адным словам, атрымаўся сапраўдны "парад планет". За рэдкім выключэннем, на "Лістапад-97" трапілі "нераскручаныя" стужкі. Але прафесійная крытыка прылічыла іх да аўтарскага кіно, якое прызначаецца "гледачу-гурману". Я маю на ўвазе стужкі "Каралі з ваўчыных зубоў" і "Пад мянушкай "Іка". Але доўга спыняцца на гэтым не варта, бо "Культура" № 46 (1997 г.) падрабязна інфармавала чытачоў.

Адзначу толькі, што сёлетні "Лістапад" у чацвёрты раз зноў паўтарыў памылкі мінулых гадоў. Кожнаму зразумела, што ўдзел карцін у мінскім форуме нагадвае знакаміты і бліскучы "Фестываль фестываляў", дзе стужкам нічога не прысуджаюць і прызы — не галоўнае. Яны і так ужо намінаваныя на самых высокіх сусветных кінаконкурсах. Відаць, для таго і складаецца разнастайная праграма лаўрэатаў, каб пазнаёміць гледачоў, як кажуць, па гарачых слядах. Паказ — і толькі! Накшталт тэатралізаванай праграмы "Товарищ кино", у якой бралі ўдзел кіназоркі з розных студый краіны. Штосьці падобнае адбылося і на "Лістападзе". Вось толькі ніяк не ўцямлю: навошта ўзнагарода, да прыкладу, стужцы "Злодзей", калі на Венецыянскім фестывалі "класа А" Павел Чухрай — рэжысёр стужкі — ужо атрымаў некалькі прызоў у розных намінацыях.

Не сакрэт, што і іншыя стужкі — лаўрэаты розных прэстыжных конкурсных праграм накшталт "Кінашока" альбо "Кінатаўра"... У рэшце рэшт, набыць правы на карціну айчынны пракат усё роўна не ў стане, ды і вытворцы-піраты апярэджваюць кінапракатчыкаў на некалькі месяцаў. А мінскі глядач быў ужо загадзя зацікаўлены конкурснай праграмай. Залы былі поўныя, нават пыталіся пра квіткі ля перахода ў метро. Я асабіста даўно не бачыла такога глядацкага ажыятажу.

Сапраўднай аздобай фестывалю былі творчыя сустрэчы аўтараў стужак са шчаслівымі ўладальнікамі квіткоў на прагляд фільмаў. На гэты раз, акрамя славутай дынастыі Яроменкаў і нязменнага прэзідэнта "Кінатаўра" Марка Рудзінштэйна, у беларускую сталіцу прыехалі Вадзім Абдрашытаў, Генадзь Палока, Данатас Баніёніс, Дзмітрый Харацьян, Рудольф Фрунтаў, Вячаслаў Крыштафовіч, Віктар Сяргееў, Аляксандр Абдулаў і нават генерал-лейтэнант Каржакоў. Часу, адведзенага для прэс-канферэнцыі, традыцыйна не хапіла, і найбольш актыўныя журналісты надакучвалі адміністрацыі гатэля "Мінск", чакаючы "зорак" ля ўваходу. Мае калегі, прадстаўнікі рознакаляровай прэсы, падвялі вынікі: ні крымінальнага, ні славутага п'янага ўгару не было. Як і штодзённых фуршэтаў. Акрамя ўрачыстых вячэр падчас адкрыцця і закрыцця мерапрыемства. Пад нагамі фотакарэспандэнтаў і журналістаў не блыталіся прадстаўніцы найстаражытнай прафесіі, што выклікала гонар за нашых суайчыннікаў. Маючы вопыт працы на замежных фестывалях, такое іншы раз пабачыць даводзілася...

А на мінскім фестывалі ўсе глядзелі на экран. Сярод крытыкаў і журналістаў разгарнулася спрэчка наконт стужак "Брат", "Злодзей" і "Вяртанне браняносца". Маладому пакаленню больш цікавым падаўся фільм Аляксея Балабанава "Брат". Вядома ж, выканаўца галоўнай ролі Сяргей Бадроў заслужыў любоў гледачоў яшчэ з часоў папулярнасці фільма "Каўказскі палонны", за які ён атрымаў найвышэйшую кінематаграфічную ўзнагароду Расіі —"Ніку". Сюжэт фільма "Брат" — звычайны: пасля службы ў Савецкай Арміі Даніла Багроў вяртаецца дадому. Жыццё ў маленькім правінцыйным гарадку не прываблівае юнака, і ён накіроўваецца ў Піцер да свайго брата, вядомага ў крымінальных колах кілера. Герой стужкі не абцяжарвае сябе філасофскім пытаннем: якім быць? Таму міжволі ён уцягваецца ў крымінальны асяродак старэйшага брата. Дзіўна, але для пэўнага кола гледачоў ён — станоўчы герой незалежна ад колькасці забойстваў, выкананых па просьбе брата. Даніла Багроў — "дафеніст" — наш сучаснік, які лёгка перамагае зло з дапамогай зброі. У наяўнасці ўсе атрыбуты сучаснага жыцця. Жах не толькі ў забойствах, што зрабіліся штодзённай з'явай. Жах у тым, што менавіта гэты персанаж С.Бадрова — герой нашага часу, які жыве адным днём. Ён ні на кога не крыўдзіцца, яго нічога не радуе і не засмучае. Зомбі, які шукае толькі прыгожую цацку — дыск "Крылы" кампазітара Вячаслава Бутусава. Жахліва, што герой — звычайны хлопец, падобны да твайго суседа па пад'ездзе. Моладзь у кінатэатрах рагавала апладысментамі ў самых непрадказальных момантах, якія, магчыма, зразумелыя толькі цінэйджэрам. Сум і праўда часу адначасова.

Стужка "Злодзей" больш вядомая мінскаму гледачу па рэкламе ОРТ і ліцэнзійных відэакасетах. Гэтая карціна — пра мінулае, што так і не зрабілася Гісторыяй. Гісторыя кахання і нянавісці, адданасці і здрадніцтва. Дадам толькі, што Міша Філіпчук — 6-гадовы герой стужкі — цяпер здымаецца адначасова ў трох вядомых расійскіх рэжысёраў. Лішне казаць пра акцёрскі талент Уладзіміра Машкова. Гэта агульнавядома.

Ходзяць чуткі, што пасля прагляду "Злодзея" славуты беларускі рэжысёр Міхась Пташук рашуча збіраецца запрасіць У.Машкова на ролю ў гістарычнай эпапеі "Момант ісціны". Карацей кажучы, будзе свята і на нашай вуліцы. Спадзяюся.

**Жанна ВАСАНСКАЯ**
**Фота Віктара ЗАЙКОЎСКАГА**





*Дырэктар фестывалю "Лістапад" Валянціна Сцяпанава (Беларусь).*



*Данатас Баніёніс (Літва).*



*Алег Фамін (Беларусь).*



*Аляксандр Абдулаў (Расія).*



*Вячаслаў Крыштафовіч (Украіна).*



*Дзмітрый Харацьян (Расія).*

# ПРЭЗІДЭНЦТВА — СПРАВА ГОНАРУ, А НЕ ПРЫБЫТКУ

***Мой візаві Расціслаў ЯНКОЎСКІ, народны артыст СССР, народны артыст Беларусі, прэзідэнт кінафестывалю "Лістапад".***



*Расціслаў і Ігар Янкоўскія.*

**— Расціслаў Іванавіч, дазвольце трывіяльнае пытанне: ці прыносіць фестывальнае "тыражыраванне" прозвішча Янкоўскіх грашовы прыбытак у наш камерцыйны час?**

— Жартуеце? Для мяне гэтая акцыя — абсалютна дабрачынная. Калі маё імя нейкім чынам прыносіць карысць такой культурнай падзеі, як фестываль, то я шчаслівы. Я незвычайна люблю гледача... Дарэчы, заўважылі, колькі людзей на праглядах конкурснай праграмы ў зале? А наконт грошай, "сімвалаў і герояў" нашага часу, то, дзякуючы пастаянным спонсарам "Лістапада", фестываль жыве ўжо чатыры гады. З мэтай рэкламы, у сваю чаргу, дазвольце назваць іх?

**— !**

— У першую чаргу, дырэктара фестывалю Валянціну Сцяпанаву і роднае Міністэрства культуры РБ, канцэрн "Амкадор", кампаніі "Белавія" і "VessoBel", фірма "Markell", выдавецтва "Цішкоў паблішэр".

**— А для душы прэзідэнт атрымлівае штонебудзь?**

— Безумоўна! Сустрэчу з даўнімі сябрамі. Што ні кажыце, але сёння сяброўства каштуе не танна ва ўсіх сэнсах. Я заўсёды рады падчас мерапрыемстваў запрасіць у свой дом даўняга прыяцеля — госця.

**— Даўно ходзяць чуткі наконт кулінарных здольнасцей вашай жонкі. Яе "творы" — таксама атрыбут цёплай сустрэчы з сябрамі?**

— Не без гэтага! Мая даражэйшая палавіна — па нацыянальнасці грузінка, і лішне казаць, што адусюль выцякае на хатнія сталы. Дарэчы, вось Вячаслаў Крыштафовіч, кіеўскі кінематаграфіст (рэжысёр стужак "Валодзя вялікі — Валодзя маленькі", "Рабро Адама", "Прыяцель нябожчыка". — **Рэд.**) — мой добры сябар, з якім мы ледзь вырваліся з калаўрота фестывальных падзей і з вялікім задавальненнем правялі час за хатнім сталом.

**— Вы — аматар кінематаграфічных "тусовак"?**

— Насупраць. Я — аматар хатняга ладу жыцця. Адпачыць і набрацца добрай энергетыкі я магу толькі ад сваіх блізкіх і родных. Увогуле я мужчына неарыгінальны, мае густы і жыццёвыя схільнасці і арыенціры, магчыма, старамодныя. Усё сваё жыццё я пражыў з адной жанчынай, сваёй жонкай, якую люблю і да гэтай пары. Ганаруся сваімі сынамі Ігарам і Уладзімірам, калі яны збіраюцца разам у бацькоўскай кватэры... І, дарэчы, не паважаю тых, хто любіць выхваляцца жыццёвымі дасягненнямі і ў побыце, і ў творчасці. Між іншым, веру ў прыкметы і баюся суроцтва. За гэтымі патэтычнымі словамі стаяць і асабістыя пастулаты жыцця — ніколі нікому не зайздросці!

**— Прабачце, але шмат вашых персанажаў з п'ес даволі вядомыя "донжуаны", і глядач не сумняваецца ў развіцці падзей пасля спектакля. Дзе ж знакамітае багемнае жыццё?**

— Усіх сваіх партнёрш па сцэне я люблю! Інакш не атрымаецца цуду мастацтва. Але толькі падчас спектакля. Вядома, тэатр — самы эратычны від мастацтва. Толькі шчаслівы я і ў жыцці і ў прафесіі дзякуючы жаноцкаму таленту маёй адзінай у жыцці жанчыны.

**Гутарыла Жанна ВАСАНСКАЯ**
**Фота Андрэя БЯРЭЗІНА**

## ЛЕПШЫЯ З ЛЕПШЫХ ФІЛЬМАЎ

Галоўны прыз глядацкіх сімпатый — "Брат", рэжысёр Аляксей Балабанаў (Расія).

"Лепшы фільм" ад журы кінематаграфістаў — "Злодзей", рэжысёр Павел Чухрай (Расія).

"Лепшая жаночая і мужчынская роля" ад журы кінакрытыкаў і журналістаў:

— Алена Сафронава (Расія) за ролю ў фільме "Прынцэса на бабах";

— Міхаіл Уржумцаў (Расія) за ролю ў карціне "Вяртанне браняносца".

MULTUM IN PARVO

# "ІДЫЛІЯ" І "ЗАЛЁТЫ" Ў БАБРУЙСКУ

Бабруйскі тэатр драмы і камедыі імя В.Дуніна-Марцінкевіча распачаў свой 29-ы тэатральны сезон. Міністэрства культуры РБ пасадзейнічала, каб бабруйчане ўбачылі сапраўдны тэатральны фестываль. Амаль тры дні Бабруйск быў "меккай" тэатральнага мастацтва краіны. Для ўдзелу ў фестывальнай праграме былі запрошаны Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя Янкі Купалы і Дзяржаўны драматычны тэатр імя Якуба Коласа. Адкрыўся ўрачысты вечар падзеяй, якую бабруйчане перажылі двойчы. Бюст знакамітага земляка Дуніна-Марцінкевіча быў нарэшце ўсталяваны перад галоўным уваходам у тэатр, які носіць імя славутага драматурга. З прывітальным словам да гасцей звярнуліся народная артыстка РБ Лілія Давідовіч, намеснік начальніка ўпраўлення культуры аблвыканкама Святлана Казлова, начальнік аддзела тэатра Міністэрства культуры РБ Вадзім Дапкюнас.

Далей падзеі разгарнуліся на сцэне тэатра. Мэр Бабруйска Уладзімір Раманоўскі паабяцаў сваім гараджанам штогодны нацыянальны фестываль беларускай драматургіі імя Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча. Зала падтрымала ідэю стварэння на магілёўскай зямлі традыцыйнага свята для ўшанавання памяці аднаго са стваральнікаў беларускай рэалістычнай драматургіі. Трупа Бабруйскага тэатра, у сваю чаргу, "падарыла" спектакль "Пінская шляхта", які не сыходзіць са сцэны каля дваццаці гадоў. Ажыццявіў пастаноўку Сяргей Палешчанкаў. У спектаклі прагучала арыгінальная музыка кампазітара Вадзіма Сажына, сцэнаграфію прыгатаваў мастак Юрый Нікіфараў. Разыграная дзеянне пакідае шмат пытанняў, але ж акцёрскае майстэрства бабруйчан выклікае станоўчыя водгукі. Заслужаныя "брава!" гучалі ў адрас Аляксандра Парфяновіча ў чарговы раз. "Героі Дуніна-Марцінкевіча пасварыліся з-за дробязі: з-за таго, што адзін з іх назваў другога "мужыком". Кроўна абражаны такой "нечуванай крыўдай" для шляхецкага гонару, Цюхай-Ліпскі пабіў Ціхана Пратасавіцкага. У выніку — судовая справа. Гісторыя старая як свет, але ж персанажы ў выкананні Ларысы Пакроўскай, Наталлі Кашпур, Віктара Слышкова да болю знаёмыя і зразумелыя сучаснікам. Праблемы пінскай шляхты нібы трансфармаваліся і добра асвоіліся напрыканцы XX стагоддзя. "Купалаўцы" і "коласаўцы" прынялі сцэнічную эстафету ад гаспадароў фестывалю, прадэманстраваўшы сцэнічныя творы Дуніна-Марцінкевіча "Ідылія" і "Залёты". А вось прыезд цяпер ужо знакамітага рэжысёра Мікалая Пінігіна быў прыемным сюрпрызам на фестывалі. Рэспубліканскія СМІ не аднойчы іранізавалі наконт занятасці на сцэнах Масквы і Санкт-Пецярбурга таленавітага земляка і няўдзелу ў тэатральных святах Беларусі.

Што і казаць, калі завяршыўся фестываль амаль што галоўнай падзеяй года тэатральнага — падзеяй нараджэння нацыянальнага форуму беларускай драматургіі.

**Марфа БЛАГАДАНСКАЯ**
**Фота Аляксандра ЧУГУЕВА і Уладзіміра ШАРНІКАВА**


Сцэна са спектакля "Пінская шляхта".


Сцэна са спектакля "Пінская шляхта".

З'ява

# ФРАНЦУЗСКАЯ АРТЫСТКА, ЯКАЯ РАЗМАЎЛЯЕ ТОЛЬКІ ПА-БЕЛАРУСКУ

**Вядома ж, гэта пэўнае перабольшанне: Віржыні Сіманэк, артыстка і заснавальніца французскага тэатра "Эспры дэ Сэль", добра размаўляе і па-французску, што і не дзіўна, бо гэта яе родная мова. А і тое, што яна добра размаўляе і па-беларуску, але не разумее рускай мовы — таксама праўда, і факт гэты быў сенсацыяй вечарам 26 лістапада, калі ў Дзяржаўным маладзёжным тэатры эстрады прайшоў незвычайны спектакль французскай трупы.**

Спектакль "Уяўная камедыя" зроблены ў жанры камедыі масак на падставе адразу дзвюх п'ес: "Чорная галава" Лесажа (балаганны тэатр XVIII стагоддзя) і "Лятаючы доктар" Мальера (фарс "вялікага" стагоддзя). Гэта — гісторыя тэатральнай трупы, што скончыла граць адну п'есу і рыхтуе наступную. Такім паўстае "жыццёвы цыкл", звычайны і вечны, тэатральнай трупы — балаганнай, вулічнай — з назвай "Оп-ля Бум Тэатр". Гэта — гісторыя адвароту тэатральнага жыцця, карыкатурная, у адпаведнасці з жанрам — камедыяй масак. (Дарэчы, "Эспры дэ Сэль" не абмяжоўвалі свае гастролі ў Мінску адным спектаклем, а правялі таксама майстар-класы на тэму "Далучэнне да маскі" ў Акадэміі мастацтваў.)

Па заканчэнні спектакля, на якім прысутнічаў і пасол Францыі пан Бернар Фасье, і прадстаўнікі Міністэрства культуры Беларусі, і вядома ж, кіраўніцтва нашага самага маладога тэатра, было адзначана цалкам шчыра, што вербальны тэатр не абмяжоўвае гледачоў ва ўспрыманні; камедыя, разыграная па-французску, была цікавая і тым, хто гэтай мовы не ведае. Але ж калі высветлілася, што адна з артыстак валодае беларускай, факт яднання культур набыў новы сэнс.

Віржыні Сіманэк пачала вывучаць беларускую два гады таму, калі ўпершыню наведала Беларусь з мэтай збору матэрыялаў для дысертацыі па тэме "Беларуская драма пачатку стагоддзя". Да гэтага яна не разумела беларускай і, тым больш, на ёй не размаўляла, хаця яе дзед і быў па паходжанні беларус. Менавіта па смерці дзеда Віржыні адчула "духоўную страту" і пачала асвойваць мову беларусаў.

Тое, што мова ўсё ж не галоўнае ў тэатры, некаторыя гледачы адчулі па сабе: фінал адной з дзвюх п'ес праходзіў з удзелам выпадковых гледачоў. Я асабіста гэта праверыў — адна з тых, хто выйшлі на сцэну, была Вольга Максімчык, студэнтка першага курса дэфекталагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта. Вольга і яе настаўніца, выкладчыца кафедры сурдапедагогікі Наталля Селівёрстава, у адзін голас пацвердзілі, што тая атмасфера, якую стварылі французскія акцёры, дазваляла гледачам прымаць амаль раўнапраўны ўдзел у спектаклі, і адразу ж прапанавалі мне гэта давесці ўжывую — на жаль, недахоп часу не дазволіў мне прыняць гэтую прапанову...

Такім чынам, вечар французскага тэатра стаўся цікавым і для студэнтаў-педагогаў, і для тэатралаў, і для філолагаў — усіх тых, для каго і стварыўся Маладзёжны тэатр эстрады. Адным словам, з'ява!

**Ігар КЛОКАЎ**




МНОГАЕ Ў МАЛЫМ

# ЮБІЛЕЙНАЯ ПАРТЫТУРА

Традыцыйны міжнародны фестываль "Беларуская музычная восень" сёлета распачаў снежаньскі каляндар.

2 снежня ў канцэртнай зале Дзяржаўнай філармоніі (пр.Скарыны, 50) выступаў Дзяржаўны акадэмічны народны аркестр Рэспублікі Беларусь імя Жыновіча, мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор — народны артыст Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі — Міхаіл Казінец; у выкананні студэнтаў Беларускай акадэміі музыкі гучалі арыі, рамансы, песні, народная музыка. З снежня адбылся канцэрт знанага госця з Масквы — народнага артыста Расіі Юрыя Башмета, ён дырыжыраваў праграмай, якую прадставіў Дзяржаўны камерны аркестр "Салісты Масквы". 4 снежня ў канцэртнай зале філармоніі выступіў Дзяржаўны квартэт Расіі імя Барадзіна, у яго выкананні мінчукі пачулі творы Франца Шуберта і Дзмітрыя Шастаковіча. Акурат сёння, 6 снежня, адбудзецца закрыццё XXIV фестывалю мастацтваў "Беларуская музычная восень", у канцэрце прымуць удзел Дзяржаўны камерны аркестр Рэспублікі Беларусь, мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор — Інга Эрнст Райль (Германія), Дзяржаўны камерны хор Рэспублікі Беларусь, мастацкі кіраўнік — Ігар Мацюхоў. Салісты: народны артыст Расіі Алег Янчанка (арган), заслужаны артыст Расіі Анатоль Сафіулін (бас),у праграме сённяшняга канцэрта: Алег Янчанка — Канцэрт № 2 для аргана з аркестрам, прагучыць таксама яго "Michelangelo", Іаган Бах — фрагменты з "Майстэрства фугі". Сённяшнім канцэртам фестываль майстроў мастацтва завершыцца, а сезон працягваецца далей, сезон, які праходзіць пад знакам юбілею Беларускай Дзяржаўнай філармоніі.

**Алена РЫГОРАВА**

# ВІЗІТ

Нядаўна нашу краіну наведала дэлегацыя з Рэспублікі Татарстан: прэм'ер-міністр Рэспублікі Татарстан — Фарыд Мухаметшын, глава адміністрацыі г.Казані — Каміль Ісхакаў, генеральны дырэктар АТ "Татнафта" — Рэнат Галееў і многія іншыя. Прыехаў для выступлення ў Мінску і Фальклорны ансамбль Татарстана. Прыезд дэлегацыі супаў з мерапрыемствамі, што ладзяцца з нагоды 600-годдзя пасялення татар на землях тагачаснага Беларуска-Літоўскага княства. Таму вельмі сімвалічна выглядала прысутнасць гасцей на закладцы ў Мінску першага каменя будучай мячэці. У сталічным Палацы культуры ветэранаў дэлегаты сустрэліся з журналістамі і прадстаўнікамі татарскай дыяспары "Аль-Кітаб". Фарыд Мухаметшын распавёў пра тое, чым жыве і дыхае сённяшні Татарстан, адказаў на пытанні прысутных, паабяцаў, што татар, якія жывуць на Беларусі, пастараюцца падтрымліваць — духоўна і матэрыяльна.

**Зміцер ВОЛКАЎ**
**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**


Злева направа: Абу-Бякір Шабановіч, прэзідэнт Беларускага згуртавання татараў-мусульманаў "Аль-Кітаб", Фарыд Мухаметшын, прэм'ер-міністр Рэспублікі Татарстан, і Аляксандр Білык, старшыня Дзяржаўнага камітэта па справах рэлігіі і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь.

# ЖУРАЎКОВЫ СВЕТЛАПІС

У Магілёве з 25 кастрычніка па 15 лістапада ў выставачнай зале гарадскога Цэнтра культуры праходзіла выстава аўтарскай фатаграфіі Віктара Жураўкова з Мінска.

Гэта ўжо другі паказ твораў беларускага фотамастака ў горадзе на Дняпры, а першы раз ён прадставіў невялікую падборку сваіх лепшых здымкаў падчас выставы на фестывалі "Магутны Божа" ў ліпені 1996 г. І вось зноў сустрэчы з гэтым таленавітым майстрам светлапісу.

Выстава па шматлікіх водгуках наведнікаў, адбылася вельмі добрай, бо аўтар сваімі рамантычнымі і светлымі карцінамі нясе нам нейкую цеплыню і спакой, так неабходны ў наш мітуслівы і складаны час.

Выстава прайшла ў рамках святкавання 25-годдзя народнага фотаклуба "Вясёлка" дзякуючы спонсарскай падтрымцы СП "Белая Вежа" — афіцыйнаму прадстаўніку фірмы "Кодак", якая дапамагла выдаць прыгожую афішу і прэзентавала Віктару сваю прадукцыю з надзеяй, што ён яшчэ не аднойчы падзеліцца сваімі фатаграфічнымі ўражаннямі на шматлікіх вернісажах.

**Васіль ЦІТОЎ,**
**фотамастак**
*Магілёў*

# КЛУБНІКІ Ў ХОЙНІКАХ

Гомельскі абласны цэнтр народнай творчасці сумесна з аддзелам культуры Хойніцкага райвыканкама арганізавалі і правялі занальны семінар па тэме: "Клуб і праблемы патрыятычнага выхавання" з удзелам культработнікаў Светлагорскага, Рэчыцкага, Лоеўскага і Хойніцкага раёнаў.

Удзельнікі семінара пазнаёміліся з практыкай работы культустаноў Хойніцкага раёна па патрыятычным выхаванні дзяцей і моладзі, дамаўляліся аб шляхах узаемадзеяння ўстаноў культуры і грамадскіх арганізацый, аб'яднанняў у гэтым накірунку.

**Людміла МЕЛЬНІКАВА**
*Гомель*

# ЭКУМЕНІЗМ У МУЗЫЦЫ

Мужчынскі камерны хор "Унія" Магілёўскай абласной філармоніі меў гонар удзельнічаць у "Містэк мьюзэк фестывалі", які праходзіў з 20 па 29 лістапада ў Турцыі.

У імпрэзе бралі ўдзел прадстаўнікі з 10 краін і гучала музыка розных рэлігій свету. Цікава, што праваслаўе прадстаўляў калектыў з Месапатаміі, дзе да заваёвы яе Турцыяй існавала менавіта гэта рэлігія, а іудаізм — кантар з Ізраіля, які выконваў духоўныя песні "Песні жыцця". Але менавіта хор "Унія" пад кіраўніцтвам Кірыла Насева меў выключнае права сольнага канцэрта ў лепшай сучаснай зале Стамбула, бо ў сваёй праграме спалучыў музыку чатырох хрысціянскіх канфесій, уласцівых Беларусі.

Бліскучае выкананне праваслаўнага "Супрасльскага ермалою XVI стагоддзя", пратэстанцкіх гімнаў Вацлава з Шамотул і Цыпрыяна Базыліка XVII стагоддзя, месы маладога беларускага кампазітара Аляксандра Ліцвіноўскага і фрагментаў уніяцкай літургіі Міколы Шчаглова-Куліковіча забяспечылі трыумф магілёўскай "Уніі" ў Стамбуле.

**Алена БАРЫСАВА**
*Магілёў*



КУЛЬТУРА ІНФАРМУЕ

# "И дольше века длится день..."

...Ён быў шчаслівым улюбёнцам муз, хаця зведаў і сумненні, і ваганні, і памылкі, і цярністыя шляхі да ўвасаблення ўсяго, што хвалявала ягонае творчае ўяўленне.

Яго няма з намі ўжо год і восем месяцаў. Ён пайшоў летась на самым пачатку халоднага красавіка. Пайшоў, пакінуўшы каласальную творчую спадчыну — дзесяткі, сотні мастацтвазнаўчых і літаратурна-крытычных артыкулаў і даследаванняў, нарысаў і эсэ, кніг і фатаграфій, акварэляў і аловачных замалёвак, філасофскіх эцюдаў і вершаў, кніжных ілюстрацый і тэлесцэнарыяў... Пакінуў пасля сябе добрую памяць сяброў і калег, усіх тых, хто яго хаця б трошкі ведаў...

Уладзімір Андрэевіч Бойка... Уладзімір... Валодзя... Боечка... Ён стаў маім "хросным бацькам", апублікаваўшы ў сваім тагачасным "ЛіМе" 33 гады таму першы мой артыкул на Беларусі. Потым ён шмат гадоў, да апошняга дня, быў для мяне проста Валодзем. Мы сябравалі, часта сустракаліся па творчых справах і проста так, нават некалькі гадоў працавалі разам, у адным кабінеце, на штатных пасадах у Саюзе мастакоў. А аднойчы напісалі разам — гэта было 9 студзеня 1968 года — вялікі праблемны артыкул "Каб кожны быў адказны" ў "ЛіМе" — пра прапаганду выяўленчага мастацтва. Нядаўна перачытаў яго: Божа, колькі ж мінула часу, а праблемы засталіся ранейшымі...


У.Бойка. "Вулічная анфілада ў Вільні".

І вось — зноў сустрэча з Валодзем, на гэты раз — у Палацы мастацтва... Сустрэча на незвычайнай мастацка-літаратурнай выставе-праекце, якую ягоны арганізатар і натхняльнік, мастацтвазнаўца Ларыса Фінкельштэйн назвала "Кабінет".

У анатацыі да экспазіцыі, створанай аўтарскай некамерцыйнай канцэптуальнай галерэяй "БРАМА", рэспубліканскім творчым аб'яднаннем "Тэатральная ліга" і Беларускім Саюзам мастакоў, Л.Фінкельштэйн справядліва піша, што "паняцце "Кабінет" для Уладзіміра Бойкі вельмі ўмоўнае і шматбаковае, яно набывае самы шырокі, нетэрытарыяльны сэнс, бо аналізаваў, ствараў, разважаў і маляваў ён паўсюль і заўсёды. Ягоны Кабінет — усё ягонае жыццё... Лад ягонага жыцця — гэта вобраз Часу, Пакалення, цэлага пласта айчыннай культуры..."

Так, гэта праўда. Ён паспеў шмат што здзейсніць, хаця нерэалізаваных задум і праектаў засталося яшчэ больш. Як, дарэчы, і ва ўсіх таленавітых людзей, якія заўчасна адыходзяць з жыцця. Хаця, што значыць "заўчасна — своечасова"?

Памятаю, як ён скрупулёзна збіраў матэрыял для кнігі пра Віцебскую мастацкую школу (мы разам збіраліся яе пісаць), як працаваў над нарысамі па гісторыі сучаснага беларускага мастацтва, над літаратурна-філасофскімі нататкамі... І пастаянна пісаў акварэлі і ствараў вершы.


У.Бойка. "Марская ракушка".

Асабліва ён любіў працаваць у Крыме, у любімым Рыбачым. Гэтае месца было для яго, нібыта для Пушкіна — Міхайлаўскае, для Валошына — Кактэбель, для Рэпіна — Здраўнёва... І — заўсёды — вершы. Для сябе, для блізкіх, для сяброў... І нязменная машынка "Эрыка", пэндзлі, алоўкі, папера, картатэкі. Яны — таксама ў экспазіцыі "Кабінета". Побач з букетам кветак. І — з аформленымі Валодзем кнігамі В.Тараса, А.Русака, А.Адамовіча, З.Бядулі, А.Асіпенкі...

У адным з вершаў ён напісаў: "А прыйдзе час — мяне не будзе,/ Надыдзе новых песень век..."

Так, прыйшоў такі час. Валодзі няма. Але "дольше века длится день" ягонага жыцця. Дзень мастацтвазнаўцы, журналіста, мастака...

**Барыс КРЭПАК**

ТВОРЦЫ І ТВОРЧАСЦЬ

# Вольнае паветра прыдзвіння

***12 снежня ў Полацку адкрыецца выстава твораў удзельнікаў Рэспубліканскага пленэру імя І.Ф.Хруцкага. А пакуль яна працуе ў Віцебску. Пра пленэр і яго вынікі расказвае ўдзельнік пленэру, графік і мастацтвазнаўца Мікола Гугнін і мастацтвазнаўца Міхась Цыбульскі.***

**Мікола ГУГНІН:** "Праўленне Віцебскай абласной арганізацыі БСМ па ініцыятыве яго старшыні мастака Уладзіміра Іванова распрацавала канцэпцыю і пры падтрымцы Упраўлення культуры аблвыканкама і спонсараў арганізавала ў 1996 годзе Першы пленэр памяці нашага выдатнага земляка, мастака, майстра нацюрморта, пейзажа і партрэтнага жанру Івана Фаміча Хруцкага (1810 — 1885).

Ідэя выдалася шматабяцальная, набрала моц і атрымала шырокую падтрымку, у ліпені — жніўні 1997 года быў арганізаваны Другі пленэр, ужо рэспубліканскі, памяці Івана Хруцкага. Сярод яго ўдзельнікаў былі і такія вядомыя на Беларусі мастакі, як мінчане Г.Буралкін, У.Гардзіенка, М.Карпук, віцябчане У.Іваноў, А.Скавародка, П.Явіч, Ф.Гумен, Б.Хесін, гамяльчанін Р.Ландарскі, навапалачане У.Шапо і Я.Панамарэнка і інш. У межах гэтай акцыі быў праведзены шэраг мерапрыемстваў.


Помнік Івану Хруцкаму на месцы пахавання.

На працягу 10 дзён 23 мастакі з Віцебска, Мінска, Магілёва, Наваполацка і Гомеля рухаліся па маршруце Ула — Полацк — Захарнічы. Адпаведна з біяграфіяй майстра, удзельнікі пленэру знаёміліся з мясцінамі, дзе нарадзіўся, вучыўся, жыў і працаваў Хруцкі. Дзякуючы ініцыятыве кіраўніцтва Полацкага райвыканкама, ва ўдзельнікаў пленэру адбыліся незабыўныя сустрэчы на Полачыне, перш за ўсё з працаўнікамі саўгаса "Банонь" і калгаса "Радзіма". Гэта была цудоўная магчымасць убачыць сённяшні дзень сельскай Беларусі, яе дасягненні і праблемы і ў першую чаргу людзей, якія працуюць на гэтай зямлі. Невыпадкова многія мастакі звярнуліся тут да жанру партрэта.

5 жніўня на лясных могілках ля вёскі Захарнічы каля Полацка адбылося адкрыццё надмагільнага помніка Івану Хруцкаму, (аўтар віцебскі скульптар А. Гваздзікаў). Гэтая падзея была заключным мерапрыемствам у Другім пленэры памяці майстра.

Ужо можна з упэўненасцю сказаць, што пленэр не толькі паслужыў прапагандзе і папулярызацыі творчасці вялікага майстра, але і з'явіўся добрым стымулам для актыўнай творчай працы мастакоў Беларусі, зрабіў больш поўным і багатым мастацкае жыццё Віцебшчыны і ўсёй рэспублікі, і ў далейшым будзе спрыяць мэтам адраджэння нацыянальнай мастацкай культуры.

Першыя вынікі — шматлікія эцюды, эскізы, замалёўкі, свежыя зрокавыя ўражанні — сталі тым грунтам, на якім разгарнулася вялікая творчая праца ўдзельнікаў пленэру па падрыхтоўцы да выніковай выставы, якая толькі што і адчынілася ў выставачнай зале Віцебскай абласной арганізацыі Беларускага Саюза мастакоў".

**Міхась ЦЫБУЛЬСКІ:** "Нягледзячы на тое, што сямёра з дваццаці трох удзельнікаў сёлетняга пленэру былі і ўдзельнікамі леташняга, апошняя экспазіцыя пленэрыстаў, у параўнанні з выставай першага пленэру, выглядае больш прадстаўніча. Тут ужо рэдка сустракаюцца хуткаспечаныя эцюды, а пераважаюць завершаныя кампазіцыі. Аднак факт "карціннасці" вялікай колькасці твораў зусім не азначае агульнай іх высокай мастацкасці, вобразнай, кампазіцыйнай ці лінейна-каларыстычнай адметнасці. Аглядаючы экспазіцыю, адчуваеш то мудрагелістую манернасць у асобных графічных аркушах, то пластычную нявызначанасць і сухасць жывапіснай тэхнікі, то глыбокую апатыю аўтара ў адносінах да колеру, то кампазіцыйную аморфнасць... І тое, і другое, безумоўна, мае канкрэтных адрасатаў. Але пералічваць аўтараў слабых твораў наўрад ці варта. Іх занадта шмат для адносна невялікага складу ўдзельнікаў пленэру. Таму і на выставе шмат звыклага, не аднойчы бачанага на ранейшых шматлікіх малазапамінальных калектыўных выставах. Больш таго, крытыкі, увагі і разважанняў заслугоўваюць у першую чаргу зусім не бесталанныя творцы. Менавіта апошнім, што ўжо заявілі аб сабе раней творамі адпаведнага мастацкага ўзроўню, варта прад'яўляць прэтэнзіі за "недапрацаванасць" уласнага творчага патэнцыялу. Сорамна і за некаторых мінчукоў, якія надзвычай легкадумна паставіліся да сваёй ролі ў пленэры.


На адкрыцці пленэру. На першым плане — У. Іваноў і Г. Буралкін з хлебам-соллю.

І ўсё ж такі, ці здолеў пленэр стаць адкрыццём новых творчых патэнцыялаў, "парадзіць" адметныя мастацкія творы? Як кажуць сатырыкі: хутчэй "не", чым "так". А калі і можна адказаць умоўна станоўча, то толькі на другую частку пытання. А ўмоўна таму, што наўрад ці варта лічыць найноўшымі адкрыццямі кампазіцыйна і каларыстычна бездакорныя алейныя кампазіцыі мінскага мастака М.Карпука ("Возера Крывое", "Азёрны край") ці пабудаваныя на глыбокай адданасці класічнаму рэалістычнаму жывапісу палотны "жывой гісторыі віцебскай мастацкай школы" — П.Явіча ("Світанак над возерам", "Нацюрморт з палявымі кветкамі"). Гэта класіка, якая павінна была б стаць трывалым падмуркам пленэрнай выставы, да якой прынцыпова важна было б далучыць творы мастакоў новых пакаленняў. На жаль, сярод шматлікіх прадстаўнікоў апошніх нагадаць можна бадай што двух — А.Карпана з яго "Васеньскім нацюрмортам" і Б.Хесіна з дэкаратыўнымі кампазіцыямі нацюрмортаў. Менавіта працы ўсіх вышэй названых аўтараў і яшчэ невялікага шэрагу ўдзельнікаў першага пленэру хацелася б убачыць у якасці дамінантаў новага каталога па выніках двух пленэраў (які рыхтуецца зараз да выдання) у процівагу асабліва выпадковым і няўдалым фотаздымкам у апошнім буклеце. Словам, ёсць над чым задумацца арганізатарам і ўдзельнікам наступнага, напэўна ўжо Міжнароднага пленэру памяці І.Хруцкага, які ўжо зусім не за гарамі".


Цудоўныя мясціны, дзе праходзіў пленэр імя І.Хруцкага.

# "АДНАГО ЖЫЦЦЯ МНЕ МАЛА..."

## Сустрэчы з Міхаілам Шэмякіным

*(Заканчэнне. Пачатак у № 47.)*

Майстэрню нам паказваў сам мастак. На другім паверсе вялікага дома — "цёплая майстэрня". Тут Шэмякін звычайна жыве ўзімку (а зіма ў Клавераку суровая — мароз дасягае 26 градусаў), засяроджваючыся на жывапісе, графіцы, ювелірных вырабах. Ужо больш за тры гады мастак піша тры вялікія метафізічныя партрэты. Нам яны здаюцца амаль скончанымі, але ён перакананы: тут працы яшчэ на год-два. І я ўзгадала словы, сказаныя пра метафізічныя эксперыменты Шэмякіна прафесарам Мюнхенскага універсітэта Уладзімірам Івановым: "У эпоху страты мастацтвам усіх сувязяў са сваімі духоўнымі вытокамі майстар знайшоў у сабе мужнасць супрацьстаяць працэсу развала еўрапейскай культуры".



М.Шэмякін. "Начныя матылькі". 1989.

Паменшаная ў некалькі разоў статуя Пятра І, які сядзіць у фатэлі, у новым — сярэбраным — варыянце месцілася на невялікім стале, але пры гэтым не губляла сваёй манументальнасці і дзіўна-чароўнага абаяння. Побач з царом, аматарам "машкерадаў", застыглі ў адмысловых позах сярэбраныя блазны ў каўпаках са званочкамі, якія воляю майстра ператварыліся ў вытанчаныя падсвечнікі. Карнавал працягваецца! І застыглі, ззяючы пазалочанымі сукнямі, аздобленымі каштоўнымі каменнямі, паслухмяныя магутнай волі Мастака ўдзельнікі "машкерада" ў масках з доўгімі насамі і пагрозлівымі ўсмешкамі...

На сценах прасторнай залы — чорна-белыя малюнкі дачкі — Даратэі Шэмякінай, якая, згодна з парадай бацькі, праілюстравала прозу Юрыя Мамлеева.

Дэбютаваўшы ў 17 гадоў у Нью-Ёрку з арыгінальнай выставай "Горад катоў", Даратэя апошнія гады жыве ў Грэцыі, займаецца жывапісам, робіць біжутэрыю, прысвяціўшы цэлую серыю ўпрыгожанняў героям свайго любімага рамана "Майстар і Маргарыта". Яна піша таксама "Карыду", не палохаючыся традыцыйна "мужчынскіх", трагічных сюжэтаў.

Вытокі дочкінага "Горада катоў" лёгка знайсці ў прыхільнасцях Шэмякіна-старэйшага, з маленства неабыякавага да святога Хрыстафора, якога адлюстроўваюць на абразах з галавой сабакі. Шмат што тлумачыцца і тым, што ў доме Шэмякіных, побач з гаспадаром, шчасліва жывуць... сем сабак і чатыры кошкі. Вакол нас пастаянна круціліся два сабакі — чорна-белы ньюфаундленд Партос і абрыкосавы Буркун. Фанабэрыстая кошка Чунь літасціва дазваляла велізарнаму Партосу насіць яе асцярожна ў зубах праз увесь пакой.

Тут жа, на другім паверсе, — цэлая выстава твораў сяброў, тых, з кім звязана юнацтва мастака. Гэта Аляксандр Тышлер і Ілля Кабакоў, Генры Мур і Леанард Баскін, Эрык Булатаў і Дзмітрый Плавінскі, Алег Цалкоў і Дзмітрый Краснапеўцаў, і многія іншыя мастакі, якія жывуць цяпер у Францыі, Амерыцы і Расіі.

А даволі змрочны замак аказаўся летняй майстэрняй скульптара. Некалькі гадоў таму польскія рабочыя, растаўроўваючы яго, выпадкова зрабілі пажар, і замак быў моцна пашкоджаны — пазбавіўся вежы, унутраных перакрыццяў. Тут мы ўбачылі цэлую галерэю гіпсавых постацяў, над якімі ідзе праца. "Многія скульптары майго ўзроўню маюць па 26 — 40 памочнікаў, а я па-ранейшаму адзін альбо ўдваіх з балгарскім сябрам", — сумна канстатуе мастак. Памочнік Шэмякіна — балгарын — схіліўся над вялікай гіпсавай статуяй Пятра І, які стаяў у пагрозліва насунутай трохвуголцы.

У іншым пакоі замка са столі звісалі велізарныя белыя шары і бялюткія авальныя сферы. На падлозе — магутныя гіпсавыя круглыя бутэлькі памерам у чалавечы рост. "Гэта будучая выстава "Біясферы", — патлумачыў Шэмякін. — Шары будуць прымацаваныя да столі спецыяльнымі ланцугамі, але я не магу зрабіць іх чыгуннымі, бо ў свеце няма галерэі, столь якой вытрымала б такую вагу. Тры аб'екты будуць у бронзе, 20 — у фаберглясе, гэта новы, сучасны матэрыял, з яго вырабляюць машыны".



Прыхільнасць мастака да гэтых белых авалаў мае глыбокі філасофскі сэнс. Паслухаем, што гаворыць з гэтай нагоды мюнхенскі філосаф, аўтар перакладзенай у многіх краінах кнігі "Рускі абраз" Уладзімір Іваноў: "Менавіта тут Міхаіл Шэмякін прыадчыняе сваё сапраўднае аблічча мысляра-піфагарыйца, які заглыблены ў перажыванні чыстых формаў. Сваімі нацюрмортамі ён стварыў школу гарманічнага бачання. Узгадванае на такіх узорах вока робіцца органам спазнання Прыгажосці, адначасова абвастраецца ўспрымальнасць таямніцы выродлівага, брыдкага, скажонага, якая адлюстравана на знешне цалкам бяскрыўдных прадметах".



М.Шэмякін. "Любоўная сцэна". 1971.

"А гэтая скульптурная група з 50 асобаў будзе мець назву "Каралі і ка́ты, — каментуе мастак, няўрымсліва рухаючыся паміж застыглымі бялюткімі постацямі Марыі Сцюарт, Людовіка XVI, Паўла І, Карла Сцюарта, Дантона, Рабесп'ера і Якава Свярдлова. — Вось Пётр І у натуральную велічыню: ягоны рост 2 метры 18 сантыметраў. Рост надзвычай нізкарослага, на першы погляд, Паўла І я таксама ўдакладняў у дакументах. А працуючы над скульптурай Якава Свярдлова, які меў дачыненне да забойства апошняга рускага цара, я выкарыстаў ягоную пасляcмяротную маску... Напрыканцы другога тысячагоддзя мне падаецца дзіўным, што ніхто не імкнецца яго асэнсаваць, падвесці вынікі, задумацца хаця аб той дзіўнай сувязі, што існуе паміж уладарнымі асобамі і іхнімі забойцамі-рэвалюцыянерамі. Мне падалося вельмі важным паспрабаваць гэта зрабіць".

На адной са сценаў заўважаем адразу некалькі пасляcмяротных масак Пушкіна, Гогаля, Дастаеўскага, Бетховена, Ліста. Амаль у кожным пакоі гэтага замка-атэлье — чарапы людзей і жывёл, са столі звісаюць чучалы птушак, на сценах — чароўныя маскі, на адным са сталоў — мумія.

"Упершыню я сутыкнуўся са смерцю, калі мне было гадоў шэсць, — распавядае Шэмякін. — Майго бацьку-вайскоўца перавялі на службу ў былы нямецкі горад Кёнігсберг. Гуляючы, я і мае маленькія сябры цэлымі днямі даследавалі пакінутыя нямецкімі баронамі раскошлівыя дамы, іхнія гарышчы і скляпенні. Але, пакідаючы горад, немцы пакінулі міны ў самых нечаканых месцах. І некаторыя з маіх маленькіх сяброў загінулі ў мяне на вачах. Мноства чарапоў, шкілетаў, мумій у сатлелых мундзірах мы сустракалі падчас такіх падарожжаў. Але больш за ўсё мне запомнілася сцэна ў скляпенні аднаго старога дома. За сталом сядзелі сем немцаў у напалову сатлелых мундзірах. Напэўна, некалькі гадоў таму, у дзень захопу Кёнігсберга савецкімі войскамі, усе яны абралі групавы суіцыд, а не палон. Гэтую трагічную сцэну назаўжды захавала мая дзіцячая свядомасць, і я ўпершыню пачаў разважаць пра феномен смерці. Я і сёння перакананы, што маска смерці, якая праступае на твары шкілета альбо муміі, шмат што расказвае пра чалавека, пра ягоную псіхалогію, пра гісторыю, пра свет. Таму я часта наведваю катакомбы кляштара капуцынаў у Палерма — раблю фатаграфіі мумій для новай кнігі. Калісьці ў гэтых катакомбах маляваў Францыска Гоя".

Апошні на сёння графічны твор Міхаіла Шэмякіна — ілюстрацыі да "Русалкі" А.Пушкіна. Выстава, што прадстаўляе расіянам гэтыя вытанчаныя аркушы, з поспехам прайшла ў Царскім Сяле. 24 верасня яна адкрылася ў Музеі-кватэры Пушкіна на Мойцы, а ў лістападзе экспанавалася ў Маскве, у самай прэстыжнай зале сталіцы — Музеі выяўленчых мастацтваў імя Пушкіна.

На пытанне пра тое, як узнікла ідэя праілюстраваць гэты твор, Міхаіл Шэмякін адказаў стрымана: "Русалка" — не самы мой любімы твор. Магчыма, таму, што ў дзяцінстве нас, навучэнцаў мастацкай школы, гвалтам заганялі на гэтую самую "Русалку", у той час, калі мы мелі зусім іншыя музычныя прыхільнасці. І ўсё ж паэзія Пушкіна з маленства зачаравала мяне. Яна асвятляла маё юнацтва і дапамагае сёння выносіць складанасці жыцця. Мая маці — Юлія Мікалаеўна Прадцечанская, актрыса тэатра і кіно, перадала мне гэтую неўтаймаваную любоў да паэзіі і, перадусім, да свайго куміра — Аляксандра Пушкіна. Шмат урыўкаў з "Яўгенія Анегіна" я ведаў напамяць яшчэ ў раннім дзяцінстве і засынаючы, мармытаў: "И снился чудный сон Татьяне..." Уладзімір Рэцэптэр, які займаецца даследаваннем тэксту "Русалкі", тры гады ўгаворваў мяне зрабіць пяць-шэсць накідаў. Я доўга адмаўляўся, таму што я нічога не ўмею рабіць абы-як. І ведаў, што калі згаджуся, мне давядзецца збіраць безліч гістарычнага матэрыялу, які датычыць той эпохі, — вывучаць касцюмы (нават гузікі), праглядаць сотні рэпрадукцый з інтэр'ерамі і млынамі. Рэцэптэр нават прыехаў да мяне ў Клаверак, жыў тут на працягу месяца, прастудзіўся і ўсё перажываў, каб я не адцягваў сваю ўвагу ад "Русалкі". І я маляваў — да болю ў вачах — і ўдзень, і ўначы гэтыя мініяцюры. Адзін знаёмы акадэмік потым разглядваў гэтыя малюнкі ў лупу. Думаў, што некаторыя дэталі не намаляваныя, а надрукаваныя. Рэцэптэр прасіў сем накідаў, а атрымалася больш за 140. У Маскве, у друкарні імя Івана Фёдарава рыхтуецца раскошлівае выданне — на рускай і англійскай мовах, з даследаваннем Рэцэптэра. Дарэчы, гэта дзявяты пераклад "Русалкі" на англійскую мову. Валодзя як укладальнік і арганізатар выдання вельмі задаволены вынікам, а я ўздрыгваю, калі ўзгадваю гэтую напружаную, цяжкую працу, хаця і лічу, што вельмі сур'ёзны іспыт я вытрымаў годна".

Паэзія яўна больш блізкая Міхаілу Шэмякіну за прозу. У розныя часы ён ілюстраваў "Нос" Гогаля, "Архіпелаг ГУЛАГ" Салжаніцына, прозу Мамлеева і Турноўскага, сярод драматургаў — Метэрлінка. У паэзіі гэты спіс значна большы — акрамя асобных ілюстрацый да вершаў В.Блейка, А.Увядзенскага і Д.Хармса, Шэмякін цалкам аформіў зборнік "Класічнай іспанскай эпіграмы", дзве кнігі У.Высоцкага і М.Юппа, а таксама паэтычныя зборнікі Д.Бобышава і А.Мнацаханавай.

"Я вельмі люблю паэзію, афарызмы, філасофію, — прызнаецца мастак. — Безумоўна, філасофію цяжка праілюстраваць, хаця я і спрабаваў. Калі б я мог мець двайніка, дык адзін з нас увесь час ілюстраваў бы кнігі. Каб штонебудзь праілюстраваць, мне трэба вельмі моцна засяродзіцца, сабраць шмат матэрыялаў. Аднаго жыцця мне мала..."

... Гэтая гутарка з мастаком скончылася позна ўвечары. Уначы парк скульптур — фантастычнае, казачнае відовішча. Убачыўшы зноў Пятра І, які мірна сядзеў і нібыта драмаў, Чэхава, згорбленага, у паліто, я раптам адчула, што знаходжуся ў Пецярбургу, куды ў 1904 годзе ў вагоне з-пад вустрыц прывезлі з нямецкага курорта Бадэнвейлер цела памерлага аўтара "Трох сясцёр".

І тут жа мяне паспрабаваў рассмяшыць адзін з бронзавых удзельнікаў карнавалу, які бліжэй за ўсіх "падбег" да дома свайго таленавітага стваральніка. Так, XVIII, XIX, XX стагоддзі рускай і сусветнай культуры працягвалі сваю даўнюю філасофскую спрэчку ў гэтым унікальным парку, які так і хочацца назваць шэмякінскай Акадэміяй гісторыі мастацтваў у Клавераку. І гэтай цёплай вераснёўскай ноччу верылася, што высакародны праект Міжнароднага інстытута псіхалогіі творчасці, які шмат гадоў выношвае Шэмякін, у апошнія гады гэтага тысячагоддзя ўсё ж стане рэальнасцю.

Развітваючыся з чароўным Домам-Музеем Майстра, я няўважліва зірнула на неба. Сярод буйных, нібыта вераснёўскія яблыкі, зорак, у аксамітнай вышыні павіс востры і ўсмешлівы маладзік, нечым падобны да сярэбраных лялек-блазнаў Міхаіла Шэмякіна. Узгадваючы любімых шэмякінскіх персанажаў, я глядзела на яго ўсё больш засяроджана. І раптам мне здалося, што ён... падміргнуў мне — развітальна, трохі здзекліва, весела...

**Лола ЗВАНАРОВА,**
**Міжнародная пісьменніцкая калонія "Ледыг-хаўз", спецыяльна для "Культуры".**
*Клаверак — Омі — Нью-Ёрк*

ЗАМЕСТ КРОПКІ

# "У ЦЫРК МЯНЕ ЦЯГНУЛА ЗАЎСЁДЫ..."

***Цяпер ягонае імя наўрад ці хто ўзгадае, але на пачатку 90-х гадоў у Мінску яго пазнавалі на вуліцах, яго абагаўляла мінская дзятва. Тры сезоны ўсімі любімы клоун Шурык радаваў жыхароў сталіцы. А напрыканцы — паставіў на сцэне Рускага драматычнага тэатра імя М.Горкага цудоўны спектакль "Жылі-былі дурні" паводле ўласнай п'есы.***

***...Я знаходжуся ў даволі вялікім кабінеце. Навокал —прыкметы поспеху — у сапраўдным разуменні гэтага слова: сучасная аргтэхніка, добрая мэбля, маладзенькая памочніца, якая ветліва прапануе "гарбату-каву?". За сталом — важны чыноўнік у добрым касцюме, які ўмела размаўляе адразу па некалькіх тэлефонах, паспяваючы пры гэтым зазірнуць у пейджэр, і толькі хітраватыя, з яўнымі прыкметамі хранічнага недасыпу вочы і пастаянны іранічны налёт у вымаўленых фразах паказваюць, што перада мною — былы клоун Шурык, а цяпер — кіраўнік аддзела перспектыўных праграм і праектаў Вялікага Маскоўскага цырка, прэзідэнт Фонду "Спрыяння развіццю цыркавога мастацтва", лаўрэат міжнароднага фестывалю "Залаты цырк" у Рыме — Аляксандр Аляксандравіч Восіпаў альбо, як яго клічуць супрацоўнікі, Сан Саныч.***

**— Сан Саныч, ці не цягне вас назад, на арэну, з нафарбаваным тварам, у вялікіх клоунскіх чаравіках?**

— Усё ж такі журналісты — дзіўныя людзі, хаця я паводле адукацыі таксама журналіст. Ідзе да прыстойнага чалавека, можна сказаць, цыркавога функцыянера, каб узяць інтэрв'ю, а сам нават не наведаў спектакль, які зараз паказваюць у цырку. Нядобра, таварыш, пракольчык, лажа... Ды я ж штодзень на арэне.

**— Вы — "трэнер, які гуляе"?**

— Я, магчыма, сёння не вельмі добра выглядаю, бо зноў усю ноч мяхі набіваў.

**— Прабачце, якія мяхі, чым?**

— "Якія, якія"... Пад вачыма! Так!.. З анекдотамі ў вас, відавочна, таксама "напружанка"... Рана мне яшчэ трэнерам рабіцца, я яшчэ сам трэніравацца павінен. Шмат! І наогул, я яшчэ маладзенькім бываю.

**— А вам не боязна? Раптам вы кепска выступіце, аўтарытэт сабе сапсуеце?**

— А тады, навошта ж лезці ў кіраўнікі, калі сам ні на што не здатны? Цырк — гэта спецыфіка, аўтарытэт тут можна зарабіць, калі ты сам нешта можаш і ўмееш рабіць. Вось наш генеральны дырэктар Касцюк — народны артыст, уладальнік



"Залатога клоуна" ў Монтэ-Карла, прафесар тэатральнай акадэміі, — дык ён сапраўдны аўтарытэт, мастацкі кіраўнік ва ўсіх сэнсах.

**— Што значыць, — "Залаты клоун" у Монтэ-Карла?**

— Штогод у Монтэ-Карла пад апякунствам прынца Рэнье адбываецца Міжнародны конкурс артыстаў цырка, удзел у якім для кожнага артыста — ружовая мара. Гэта тое ж самае, што міліцыянеру пастраляць з пісталета Дзяржынскага, а для клоуна — Гран-пры "Залаты клоун".

**— Значыць, вы таксама аўтарытэт, калі кіраўнік цырка даверыў вам гэтую пасаду?**

— Не ведаю. У ім не памёр, мабыць, як гэта часцяком здараецца, дух авантурызму. Я лічу гэта вельмі важнай чалавечай якасцю. Калі я пайшоў з цырка, дык чым толькі не займаўся: і рамізнікам быў па начах, каб сям'ю пракарміць, і артыкульчыкі пісаў у бульварную прэсу, і тэлевядучым быў, і рэжысёрам сур'ёзных тэлепраектаў — усяго наеўся, але ў цырк мяне цягнула заўсёды. З'явіўся нейкі вопыт, сувязі, новыя ідэі. Выклаў іх на паперы, прынёс Касцюку, аддаў, а праз некаторы час атрымаў ад яго сустрэчную прапанову. Для мяне гэта было поўнай нечаканасцю і велізарным крэдытам даверу, але станаўленне ішло складана.

**— Таму што не прыняў калектыў?**

— Ды не тое, каб не прыняў, цяпер у мяне з усімі нармальныя адносіны. Ведаеце, кожны, нават вельмі добры механізм патрабуе праз некаторы час замены, змазкі. Касцюк у пэўны момант адчуў, што штосьці дзесьці пачало скрыпець. І я павінен быў зрабіцца гэтаю змазкай. Але кожны кіроўца ведае, што лепей недаліць у рухавік масла, чым пераліць, таму што тады масла пачынае пырскаць з усіх шчылін, і рухавік псуецца. Дык вось, на пачатку я моцна "пераліў".

**— Маеце на ўвазе, пераацанілі сябе?**

— Да гэтага я, у асноўным, меў справу з камерцыйнымі структурамі, дзе ўсё вырашаюць грошы, у тым ліку і на тэлебачанні, бо інакш — не выжыць. А тут — дзяржпрадпрыемства. І спачатку мяне раздражняла, што грошы ляжаць пад нагамі — чаму б не падняць? Але гэта было немагчыма, бо цырк абкладзены такімі законамі і інструкцыямі, што варта толькі працягнуць руку, як табе яе адразу адрэжуць. Дзяржава наша пакуль што жыве паводле запаветаў дзядулі Леніна, а той вучыў, што трэба змагацца з багатымі, што паўсюль павінны ўладарыць бедныя. Я маю на ўвазе не матэрыяльны бок, а маральны. Дык вось, на пачатку я шмат чаго нарабіў, але добра яшчэ, што Касцюк зразумеў, што я змагаўся не за ўласны дабрабыт, а за інтарэсы цырка.

**— А што, цяпер вы хіба не змагаецеся "за інтарэсы цырка"?**

— Не, не змагаюся. Я шмат што пераасэнсаваў. Калі раней мяне раздражняла, што Касцюк трымае ў цырку на пасадзе галоўнага бухгалтара 70-гадовую бабулю, якая ўсё жыццё "будавала камунізм", а слова "капіталізм" выклікае ў яе душы натуральную алергію, дык цяпер я зразумеў, што не маючы такога фільтра, як Зінаіда Андрыянаўна, ва ўмовах, калі адусюль штодзень паступаюць спакуслівыя прапановы, а творчыя людзі (па большасці сваёй наіўныя ў бізнесе) могуць зрабіць сабе вялікія непрыемнасці, мы проста б не здолелі пражыць. Яе халодны розум тут вельмі каштоўны. А што да інтарэсаў цырка, дык у пэўны момант я зразумеў, што куды важней змагацца за інтарэсы гледачоў.

**— Пра цырк досыць. А што тэатр?**

— На жаль, пахваліцца няма чым. Пастаноўка "Дурняў" у Мінску была першым і апошнім маім вопытам у тэатры. Я вельмі ўдзячны лёсу за тое, што мне пашчасціла працаваць у вас, у Рускім драматычным тэатры. Вось, дарэчы, яшчэ адзін яскравы прыклад бліскучага авантурызму, калі Барыс Іванавіч Луцэнка, галоўны рэжысёр высакакласнага тэатра, раптам прапаноўвае нейкаму клоуну зрабіць сваю пастаноўку, прычым ён не толькі прапанаваў, але і настойваў на гэтым. Я ўявіў сябе, прынамсі, Меерхольдам, за што і паплаціўся. Рэжысёр тэатра — прафесія архіскладаная, тут мала аднаго таленту, гэтай справе трэба доўга вучыцца, патрэбны вялікі вопыт.

**— Вы мяркуеце, што спектакль не атрымаўся?**

— У выніку ён атрымаўся, але тут вялікая заслуга артыстаў, хаця прэм'ера была сумнай. Тэрміны былі вельмі сціснуты, толькі адзін месяц на ўсё, артысты падчас прэм'еры толькі знаёміліся з рэквізітам і касцюмамі. І цяпер я лічу, што прэм'ера правалілася, хаця члены прыёмнай камісіі, а сярод іх былі вельмі аўтарытэтныя людзі, прытрымліваліся іншага меркавання. Пазней Луцэнка сказаў мне, што ў ягонай практыцы гэта быў першы выпадак, калі рэжысёр казаў, што спектакль не атрымаўся, а члены камісіі пераконвалі яго ў адваротным. Сапраўды, праз тры дні спектакль выглядаў ужо інакш.

**— Якія ўражанні засталіся ў вас ад нашага тэатра?**

— Гэта былі, бадай, самыя шчаслівыя дні ў маім жыцці. Якія ў нас былі рэпетыцыі — проста святы вар'яцтва. На нашых рэпетыцыях заўсёды прысутнічала безліч людзей, я гэта дазваляў. Па іхніх рэакцыях я правяраў некаторыя ісціны і тады ў мяне быў акцёрскі састаў самага высокага класа. Сыграць клоуна — задача вельмі складаная, але нездарма ж Федэрыка Феліні аднойчы сказаў, што клаунада — гэта найвышэйшая стадыя акцёрскага майстэрства. Безумоўна, не ўсе адразу зразумелі, чаго я ад іх хачу. Хтосьці зразумеў хутчэй, хтосьці — пазней, але ў выніку атрымаўся ансамбль дзіўных персанажаў і было бачна, што артыстам падабалася тое, што яны рабілі. У вас цудоўны тэатр — хай Бог дасць ім здароўя.

**— Але, калі ўсё было так добра, чаму ж вы болей не працуеце ў тэатры?**

— Аднойчы я паказаў відэазапіс спектакля свайму сябру, вядомаму рэжысёру Валянціну Гнеушаву. Той запаліўся, запэўніў, што такі спектакль проста неабходна паставіць у Маскве. На наступны дзень адбыўся яшчэ адзін прагляд, але ўжо ў маскоўскім тэатры "Современник", у кабінеце Галіны Барысаўны Воўчак. Яна адразу ж выклікала акцёраў на чытанне п'есы і склала расклад рэпетыцый. Воўчак папрасіла па магчымасці прыцягнуць да працы моладзь тэатра, што я зрабіў, але — дарма. Я ўбачыў на рэпетыцыях тужлівы натоўп з рыбінымі вачыма, які неактыўна спрабаваў зрабіць тое, што я казаў. Потым мне далі зразумець, што ім гэта не вельмі патрэбна, ім патрэбны толькі статус артыста тэатра "Современник". А маючы яго, яны "на баку" зарабляюць значна больш, чым у тэатры, і жадаюць толькі аднаго: каб не абцяжарвалі рознымі вар'яцкімі пастаноўкамі. Праз месяц я скончыў гэты творчы "ананізм" і спыніў рэпетыцыі. Не, ваш тэатр — гэта Тэатр. Я яго вельмі люблю.

**— А калі б сёння вам прапанавалі што-небудзь паставіць для тэатра, ці згадзіліся б вы?**

— Толькі ў тым выпадку, калі б у галаву трапіла якая-небудзь супер-ідэя, а без гэтага, мабыць, — не. Па-першае, з класнымі акцёрамі павінны працаваць такія ж рэжысёры, а па-другое, у мяне проста нестае часу... Люблю Мінск і Беларусь, яе добрых і цярплівых жыхароў, вельмі хочацца прыехаць, але...

*... Зноў тэлефанаванні, наведнікі, праблемы, зноў іранічная суровасць, а ўвечары — грым, клоунскі касцюм, і мала каму вядома, што перад імі дзівак, які з'яўляецца аўтарам і рэжысёрам новых цыркавых спектакляў — найяскравых падзей у мастацтве, што з поспехам ідуць у Вялікім Маскоўскім цырку.*

*А перада мною — галава, поўная ідэй, і вочы з прыкметамі хранічнага недасыпання.*

# УЛЮБЁНАЕ ДЗІЦЯ СУСВЕТУ



Андрэй Барценеў, весялун і жыццялюб, улюбёнае дзіця Сусвету, нядаўна адсвяткаваў свой дзень нараджэння ў клубе "Тытанік". У ягоны гонар адбыўся гала-паказ з удзелам лепшых расійскіх мадэльераў. Браты Палушкіны, Лена Супрун, Маша Цыгаль, Света Ларчанка, Вольга Фешына, Хаік Сіманян — адно шоу змянялася на іншае, і гэтае бліскучае свята, здавалася, ніколі не скончыцца. Безумоўна ж, на сцэне "Тытаніка" "зіхацеў" і сам імяніннік. Ягонае супер-шоу з удзелам пупсаў з пап'е-машэ дасюль карыстаецца велізарным поспехам. Госці былі ў цудоўным настроі не толькі таму, што глава расійскага авангарда адзначаў дзень нараджэння, але і таму, што "Тытанік" узрадаваў гасцей морам бясплатнага віскі. Сам імяніннік заставаўся ў святочным настроі нават без алкаголю. Ён апранаецца ў рэчы з экалагічна чыстых матэрыялаў, не п'е і не паліць, і, не з'яўляючыся вегетарыянцам, усё ж аддае перавагу раслінінаму ды малочнаму харчаванню. Цудоўны прыклад для пераймання.

# "ЗОЛАТА" ГРАМАФОНА



Гэтая цікавая арганізацыя з дэвізам "Музыка для душы" апошні час знаходзіцца на вяршыні радыёпапулярнасці. Адпачываючы "на лаўрах" заслужанага поспеху, "Рускае радыё" заснавала ўласную прэмію пад назвай "Залаты грамафон". Адбыўся гала-канцэрт, у якім узялі ўдзел усе вядомыя ўладары расійскай эстраднай музыкі, а менавіта: Ала Пугачова, Філіп Кіркораў, Алена Апіна, Леанід Агуцін, Анжэліка Варум, Таня Буланава, Дзмітрый Малікаў, Таццяна Аўсіенка, гурты "Машына часу", "Любэ", "Іванушкі international", "Нешчаслівы выпадак"... Як кажуць, далей — паўсюль.

**Аўтар матэрыялаў — наш уласны карэспандэнт у Маскве Андрэй БЯРЭЗІН. Фота аўтара.**

К КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
Выдаецца з кастрычніка 1991 года

Заснавальнік — **Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь**

Галоўны рэдактар — **Людміла КРУШЫНСКАЯ**



Рэгістрацыйнае пасведчанне № 418.

**Адрас рэдакцыі:**
220029, МІНСК (МЕНСК), вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1.
Тэлефон: (017) 276-94-66

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.

Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.

Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.



Фармат А3.
Індэкс 63875.
Агульны наклад 4156.

Падпісана ў свет 4.12.97. у 18.00.

Замова 7244

Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку". 220013, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.

М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.
Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.